–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
19
КРАСАВІКА
1991 г.
№ 16 (3582)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЧЫТАЙЦЕ





Удовы...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# ЦЯЖКІ СЕМЕСТР

**12 красавіка на вуліцы і плошчы Мінска выйшлі студэнты. Жыццё прымусіла. Нашае студэнцтва сёння — адзін з самых малазабяспечаных пластоў насельніцтва. Гаротны стан навукі і культуры, надзвычай нізкі ўзровень матэрыяльна-тэхнічнай базы адукацыі, сацыяльная неабароненасць — вось галоўныя матывы незадаволенасці тых, каму наканавана ў будучым забяспечваць навукова-тэхнічны і культурны прагрэс краіны.**

**На вялікі жаль, пакуль што студэнцтва рэспублікі застаецца раз'яднаным, неарганізаваным у адстойванні ўласных інтарэсаў. Мусіць, таму ля галоўнага корпуса БПІ у пятніцу сабраліся ўсяго каля трохсот студэнтаў з розных навучальных устаноў горада, хоць аб'явы аб мітынгу былі развешаны ва ўсіх ВНУ. Пасіўнасць? Абыякавасць? Страх? А 10-й гадзіне меўся пачацца мітынг у падтрымку патрабаванняў рабочых рэспублікі і ў абарону сваіх правоў. Але... Адміністрацыя БПІ палічыла, відаць, немэтазгодным, каб яднанне студэнцкага руху адбывалася на тэрыторыі інстытута, пад яе вокнамі. Студэнтаў «папрасілі»... Тады яны арганізавана рушылі на плошчу Якуба Коласа, да будынка філармоніі. Улады Савецкага раёна Мінска мітынг дазволілі. Яго ўдзельнікі абмяркоўвалі, што рабіць далей, якім чынам падтрымаць рабочых, як жыць самім. Сярод тых, хто выступіў, былі і дэпутат гарсавета А. Жызнеўскі, намеснік міністра народнай адукацыі БССР Г. Бутрым. Выступалі студэнты Мінскага інстытута культуры, Белдзяржуніверсітэта, БПІ, РТІ, інстытута замежных моў... Быў створаны арганізацыйны забастовачны камітэт ВНУ Мінска з 13 чалавек. Пазней старшынёй яго быў абраны студэнт МДПІЗМ А. Чарнуха. На мітынгу былі прыняты праекты палітычных і эканамічных патрабаванняў.**

**Ці падтрымае ўся студэнцкая моладзь намаганні стачкома? На гэта адкажа час. Пакуль жа ўсе прынятыя патрабаванні перададзены ў камісію Вярхоўнага Савета БССР па справах моладзі, у Савет Міністраў рэспублікі і рабочаму стачкому Мінска.**

**Тых, хто не хоча заставацца пасіўным назіральнікам, каму неабыякавы лёс нашай рэспублікі, яе нацыянальны суверэнітэт, лёс дэмакратыі, хачу сказаць: арганізацыйны стачком ВНУ Мінска спадзяецца на вашу падтрымку. Цяпер ідзе праца над стварэннем Усерэспубліканскага цэнтра стачкомаў вышэйшых навучальных устаноў. Ягоны штаб знаходзіцца ў 208-м пакоі Мінгарвыканкома; тэлефон 20-43-17. Усе заўвагі і прапановы будуць прынятыя.**

**Алесь ГУСЕЎ,**
**студэнт Мінскага інстытута культуры.**

Фота А. КАЛЯДЫ.



НА ПАВАРОЦЕ

# АМАТАРЫ АПАКАЛІПСІСУ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**ІНІЦЫЯТАРЫ перабудовы выйшлі з акопаў, агледзеліся і заўважылі, што яна, перабудова, «зайшла ў тупік». Удзельнікі III пленума ЦК КПБ, які варта было б назваць «пленумам шырока расплюшчаных вачэй», падзяліліся з грамадскасцю сапраўды рэвалюцыйнымі адкрыццямі.**

**Да 13 красавіка, пакуль не сабраўся пленум, мы і не ведалі, што «мінулыя шэсць гадоў не апраўдалі спадзяванняў народа, прывялі да катастрафічных разбурэнняў у грамадстве і дзяржаве: парушаны эканамічныя сувязі, паралізаваны вядучыя галіны народнай гаспадаркі, на грані крызісу сельская гаспадарка». Не ведалі, бо ўвесь гэты час правялі дзесьці ў Маямі (штат Фларыда) і ніколі не бачылі ні чэргаў, ні талонаў, а самае галоўнае — не задумваліся, хто, уласна, ва ўсім гэтым вінаваты. Грэліся мы пад сонейкам на Гаваях, а тут, аказваецца, «рэзка знізіліся жыццёвы ўзровень народа, дысцыпліна, зняслаўлена мараль, небывала ўзрасла злачыннасць, бушуе полымя палітычнага проціборства». Вярнуліся мы 13 красавіка з афрыканскага сафары стомленыя, ды задаволеныя, а нам і кажуць:**

**— Сацыялістычная Айчына ў небяспецы!**

**Што, зноў «Расія ў кальцы франтоў»? Дзянікін, Калчак, белапалякі, японскія інтэрвенты? Не — «пад прыкрыццём агульных разважанняў аб новым выглядзе сацыялізму ідзе мэтанакіраваная капіталізацыя савецкага грамадства». «Антысацыялістычныя сілы», «антынародныя сілы», «дэструктыўныя сілы», а ў іх — «экстрэмісцкія мэты»...**

**А, можа, і добра, што беларускія камуністы, не прэтэндуючы на арыгінальнасць, узялі напракат лозунг, прыдуманы калісьці Троцкім? Бо маглі б падтрымаць і нязломнага Фідэля — «Сацыялізм або смерць!».**

**Зноў захацелася на Таіці... Сумна тут... Усё тое ж палітычнае траскаценне, ідэалагічнае шаманства. І на пажар клічуць, і на «стваральную працу». Што рабіць: з энтузіязмам тачыць гайкі ці тэрмінова эвакуіравацца, прыхапіўшы з сабою самае дарагое — сацыялістычныя ідэалы?**

**ДЗЕЛЯ ЧАГО вядзецца гэтае нагнятанне жахаў? Навошта нашы і без таго гаротныя будні ахутваць яшчэ і апакаліптычным вэлюмам? Падумаеш, працоўныя калектывы «ўляпілі аплявуху», як сказаў адзін з прамоўцаў на пленуме. Гэта яшчэ не нацыянальная катастрофа, а ўсяго толькі паражэнне адной палітычнай партыі. Так, партыі не звычайнай, а стрыжня таталітарнай сістэмы. Але «ратаваць Айчыну» і «ратаваць камуністычную партыю» — зусім не тое самае. Увогуле, само слова «ратаваць», думаецца, павінна сёння выклікаць пэўныя падазрэнні — магчыма, сапраўдны паратунак наш у тым, каб нас перасталі ратаваць. Тым больш, што гэта, як правіла, робіцца гвалтам.**

**Пасля доўгіх месяцаў процістаяння камуністычных і апазіцыйных ім структур, якое зрабіла палітычнае жыццё рэспублікі невыразна-аднастайным, блакіравала рэфарматарскую дзейнасць, у прыватнасці, шмат у чым паралізавала працу парламента, — утварылася якасна новая сітуацыя. На палітычную авансцэну выйшла «брыдкае качаня» перабудовы — той самы рабочы клас, які дагэтуль абыякава маўчаў, мог пры выпадку мацюкнуць і «бальшавікоў», і «нацыяналістаў», хоць і не пярэчыў, калі ад яго імя вяліся непрыгожыя ідэалагічныя гульні. І вось ён стыхійна выйшаў на плошчу, коснаязыкай скорагаворкай прамовіў тое, што гаварылася на бэнээфаўскіх мітынгах і год, і два, і тры назад, утварыў жыццяздольныя арганізацыйныя структуры, вылучыў эканамічныя і палітычныя патрабаванні. Тым самым вельмі напалохаў менавіта тую партыю, якая на працягу ўсяго свайго існавання клялася выказваць і адстойваць ягоныя інтарэсы.**

**Напалохаў настольні, што яна ці не ўпершыню крыху прыцішыла свае «авангардныя» амбіцыі. Перад абліччам рэальнай небяспекі задумалася: а што будзе заўтра? Невыпадкова на пленуме настойліва гучалі патрабаванні зноў вярнуцца да пытання аб уласным статуце КПБ, яе праграме... Што ж, лепш позна, чым ніколі.**

**Хоць, мусіць, і пазнавата ўжо. Інакш неператваралася б партыя ў нейкае Таварыства аматараў апакаліпсісу: «Не жадаем быць заложнікамі неабдуманых і блізарукіх палітычных установак, вынікамі якіх стануць поўны развал дзяржавы, голад і грамадзянская вайна». Учора палохалі Пазняком і вайной, сёння — вайной і Гарбачовым.**

**НЕ ТРЭБА ляманту. Вось, напрыклад, Э. Скобелеў раіць чытаць Шамякіна — «почти лекарство в наше время, когда тлетворным запахом политических трупосечений пропитан весь наш быт, начиная с газет, телевидения, радио... Тут чистота, тут нормальные, честные, хорошие люди»...**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# НАВІНЫ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

Дэмакратычная партыя працы Летувы — «партыя Бразаўскаса» — прыняла заяву, у якой між іншым сказана:

«Мы падтрымліваем рашэнне Вярхоўнага Савета (Летувы.— **Рэд.**) вызначыць статус Віленскага краю, пашырыць магчымасці ўжывання мясцовых моваў у грамадскім жыцці ў раёнах кампактнага жыцця нацыянальных меншасцяў, усе іншыя крокі, якія служаць нацыянальнай згодзе.

ДППЛ выказвае гатоўнасць і заклікае да гэтага іншыя партыі й грамадскія рухі не марудзячы пачаць кансультацыі з прадстаўнікамі польскай, расейскай, беларускай ды іншых нацыянальных супольнасцяў з мэтай высвятлення найбольш мэтазгодных культурных, дабрачынных акцыяў ды іншае дапамогі раёнам Усходняе Летувы. Неабходныя даследаванні мінуўшчыны, гістарычных і археалагічных помнікаў гэтага краю. Мы заклікаем гісторыкаў, мовазнаўцаў, сацыёлагаў разам з калегамі з Польшчы, Беларусі актывізаваць доследы памежнага фальклору, звычаяў, культуры».

●

Пакуль урад Кебіча вызначае сваю пазіцыю адносна дачыненняў Гарбачова і Ландсбергіса, падпісана дамова паміж урадавымі арганізацыямі Летувы і Украіны. Дамова замацоўвае непасрэдныя навуковыя, педагагічныя, інфармацыйныя кантакты навуковых установаў, вышэйшых школ абедзвюх рэспублік. «У дамове, — паведамляе ЭЛЬТА, — прадугледжаны магчымасці праводзіць супольныя даследаванні, абменьвацца студэнтамі, выкладчыкамі, экспертамі, праводзіць алімпіяды па розных дысцыплінах ды інш.».

●

Сёння ў Вільні выходзяць у эфір пяць беларускіх тэле- і радыёперадач. Гэта штодзённы вечаровы інфармацыйны выпуск і штодвухтыднёвая паўгадзінная перадача «Беларускае слова на хвалях Летувы» па першай праграме незалежнага Летувіскага радыё, а таксама штотыднёвая гадзіна прамога эфіру па другой праграме. Гэта тры разы на тыдзень — тэлесюжэты, якія транслююцца на Віленшчыну і два разы на месяц — паўгадзінная перадача па першай праграме незалежнага рэспубліканскага тэлебачання. Разам — больш за 12 гадзін эфірнага часу, калі не ўлічваць неперыядычныя сюжэты па-беларуску. Усе гэтыя перадачы робяцца сіламі віленскай беларускай грамады і трымаюцца амаль выключна на энтузіязме.

**С. Д.**

АДГАЛОСКІ

## Вуснамі М. Калацэя глаголіць ісціна?

Выкладчыкі і студэнты Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы, абураныя неадэкватнай Закону «Аб мовах у Беларускай ССР» нацыянальнай палітыкай абласных улад, атрымалі афіцыйны адказ на свой зварот у Вярхоўны Савет БССР. Яго даў намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама М. Калацэй (відаць, па даручэнні Вярхоўнага Савета БССР). У лісце прызнаецца слушнасць узнятых выкладчыкамі і студэнтамі дзяржуніверсітэта пытанняў.

Да гонару М. Калацэя, ён не абмежаваўся толькі фармальнай канстатацыяй справядлівасці звароту. Далей намеснік старшыні аблвыканкама спрабуе нейкім чынам матываваць замаруджанасць «беларусізацыі» абласнога друку, сферы культуры і адукацыі. Што тычыцца газет, дык, маўляў, Дзяржкамітэт па друку БССР не паставіў неабходнай умовай рэгістрацыі выдання яго беларускамоўнасць, таму нічога не папішаш, калі ўзнікаюць выключна рускія ці польскія газеты і бюлетэні... А ўвогуле «маецца шмат праблем, якія ў першую чаргу залежаць ад канкрэтнага ўплыву кіруючых партыйных і савецкіх органаў, якія мову ўжываюць у практычнай дзейнасці эпізадычна (чытай — не ўжываюць.— **Ю. З.**)». І напрыканцы катэгарычная выснова: «Беларуская мова не стала дзяржаўнай пакуль што ні ў адной установе рэспублікі, у тым ліку ва Урадзе і Вярхоўным Савеце БССР, што не стымулюе выкананне Закона аб мовах у поўным аб'ёме».

Вуснамі М. Калацэя, на маю думку, шчыра, без усякіх хітрыкаў пададзена псіхалогія чыноўнага люду не толькі Гродзеншчыны, але і рэспублікі ўвогуле,— псіхалогія загаднага рэфлексу: зверху (няважна, хто менавіта, але абавязкова зверху) скажуць «нада», і наш чыноўнік зробіць цуды вынаходніцтва. Праўда, камуністычны партквіток і без загадаў прадпісвае яго ўладальнікам ісці ў авангардзе, быць самым перадавым, актыўным грамадзянінам і чалавекам і г. д. і г. д.

Відаць, меў у свой час рацыю Гельвецый, сказаўшы: «Законы моцныя норавамі людзей».

## Беларускі «Рокаш» у Казахстане

Ужо чатыры нумары газеты «Рокаш» здолела выпусціць Прыазёрская рада ТБМ імя Ф. Скарыны. Рэдагуюць «Рокаш» беларускія вайскоўцы С. Суднік, І. Супаненка, В. Лычак.

Казахстанцы змяшчаюць адмысловыя погляды на нашу гісторыю і рэчаіснасць, аналізуюць ваеннае пытанне і перспектывы стварэння нацыянальных узброеных сіл. Чытэльныя і паэтычныя падборкі «Рокаша».

Рэдакцыя дазваляе перадрук сваіх матэрыялаў любому выданню і дасылае нумары «Рокаша» ўсім, хто звернецца на адрас: 472200 Джэзказганская вобл., г. Прыазёрск, вул. Панфілава, д. 3, кв. 20. Суднік Станіслаў.

## Адраджэнне з пункту гледжання генетыкі

«Гродненская правда», здаецца, вырашыла адной публікацыяй спаліць усе масты, вядучыя ў гісторыю нацыянальнага пытання на Гродзеншчыне. Калі ў палітычных і каляпалітычных колах рэгіёна мудрагеліста дэбатуецца «польскае пытанне», абласныя «праўдзісты» запрасілі на дапамогу дырэктара Інстытута біяхіміі АН БССР акадэміка Ю. Астроўскага. У сваім артыкуле «Беларусы: генетыка, рэлігія, нацыянальнасць» акадэмік сцвярджае, што паводле сучасных генетычных ацэнак «беларусы і палякі Гродзенскай вобласці не адрозніваюцца адпаведна ад беларусаў і палякаў Беласточчыны, але ўсе яны не падобныя па частотах груп крыві на карэнных палякаў!»

Гісторыя сведчыць за тое, што высновы навукі генетыкі часцей ігнараваліся, чымся прымаліся да ўвагі. І сёлета гэта таксама права асабістага выбару. Але хочацца толькі шчыра паспачуваць тым жыхарам Гродзеншчыны, хто апошнім часам набыў комплекс нацыянальнай заклапочанасці і ўсё часцей заглядае ў пашпарт. Згодна праекту Закона аб правілах змены запісаў аб нацыянальнасці ў пашпартах і іншых афіцыйных дакументах, грамадзянін СССР атрымлівае права як змяніць запіс аб нацыянальнасці, так і ўвогуле адмовіцца ад яго.

Цікава, няўжо пасля такой навіны і асабліва публікацыі ў «Гродненской правде» «польская» заклапочанасць на Гродзеншчыне захаваецца?

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# ЗВАРОТ

**Саюза тэатральных дзеячаў і Міністэрства культуры Беларусі да Саюза журналістаў БССР, рэдактараў газет, часопісаў, радыё і тэлебачання рэспублікі.**

Гэты ліст — вынік абмеркавання стану тэатральнай справы ў рэспубліцы на пленумах Саюза тэатральных дзеячаў БССР і калегіях Міністэрства культуры БССР, на якіх гучала вялікая заклапочанасць тэатральнай грамадскасці станам асвятлення на старонках друку, па радыё і тэлебачанні творчага працэсу ў драматычных, музычных і дзіцячых тэатрах рэспублікі. Калі ж быць дакладнымі — праблемы тэатральнага жыцця амаль што зніклі са старонак друку. У апошнія гады вельмі рэдка можна сустрэць рэцэнзіі на новыя спектаклі нават вядучых тэатраў рэспублікі, а дзейнасць абласных драматычных труп, тэатраў лялек фактычна не асвятляецца. Адсутнічаюць праблемныя артыкулы, творчыя партрэты, інтэрв'ю і іншыя жанры тэатральнай крытыкі і журналістыкі. Складаецца такое ўражанне, калі пагартаць старонкі рэспубліканскіх і абласных газет, часопісаў, што на Беларусі сёння няма тэатральнага мастацтва...

Такое становішча нам уяўляецца ненармальным, яно не спрыяе творчаму развіццю сцэнічнага мастацтва Беларусі, нацыянальнай драматургіі, тэатральнай крытыкі і тэатразнаўства. І гэта ў такі надзвычайна складаны перыяд у нашым жыцці, калі ў Беларусі пачалі літаральна прабівацца першыя расткі працэсу адраджэння роднай культуры, калі пачала развівацца і замацоўвацца гістарычная і нацыянальная самасвядомасць людзей, для якіх беларуская зямля была і ёсць адзінай бацькаўшчынай.

Вялікае значэнне ў гэтых плённых працэсах належыць мастацтву, у тым ліку і тэатральнаму, якое ў сваю чаргу патрабуе ўвагі і падтрымкі дзяржавы, грамадства, а таксама сродкаў масавай інфармацыі. Болей за тое, своеасаблівасць сцэнічнага мастацтва, эстэтычная прырода тэатра такія, што калі крытыка своечасова і аб'ектыўна не зафіксуе спектакль, не занатуе ігру акцёраў, рэжысёрскую кампазіцыю — значыць міжволі будуць узнікаць новыя «белыя плямы» і не заўсёды плённыя міфы ў гісторыі драматычнага мастацтва. Ёсць і іншыя сур'ёзныя праблемы: тэатральная крытыка не мае магчымасцей выконваць сваю галоўную задачу—фарміраваць грамадскую думку, падтрымліваць таленавітых мастакоў, дапамагаць драматургам, рэжысёрам, акцёрам, сцэнографам асэнсоўваць сваю творчасць, бачыць свае пралікі.

Сёння ў тэатральнага мастацтва шмат праблем і цяжкасцей, абумоўленых супярэчнасцямі перабудовы, уласнымі законамі творчага руху. Але тэатральнае грамадства, дзяржаўныя органы культуры імкнуцца рабіць усё магчымае для плённага вырашэння наспеўшых праблем. СТД БССР і Міністэрства культуры распрацавалі праграму развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі, ёсць ужо першыя вынікі. Нарадзіліся новыя прафесійныя тэатральныя калектывы ў Мінску, Мазыры, Маладзечне, Слоніме. Павялічылася дзяржаўная датацыя тэатрам, удасканальваюцца іншыя формы дапамогі творчым калектывам ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі. Прыйшла свабода творчасці.

Усё гэта, па нашым перакананні, будзе спрыяць далейшаму развіццю беларускага тэатральнага мастацтва, гуманістычная накіраванасць якога на ўсіх этапах свайго гістарычнага руху мела гарачых прыхільнікаў і паслядоўнікаў. Мы ўпэўнены, што і надалей гуманістычныя ідэі, якія спавядаюць беларускія майстры сцэны, знойдуць свой водгук у сэрцах гледачоў, дапамогуць людзям Беларусі жыць у еднасці і згодзе, кіравацца агульначалавечымі каштоўнасцямі.

Вось чаму мы звяртаемся да Саюза журналістаў БССР, рэдактараў газет, часопісаў, радыё і тэлебачання рэспублікі з прапановай актыўнага творчага супрацоўніцтва, якое абавязкова прынясе адчувальны плён агульнай справе адраджэння Беларусі, духоўнаму ўзбагачэнню нашага грамадства.

**Міністэрства культуры БССР,**
**Саюз тэатральных дзеячаў БССР.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

# ШЛЯХ ДА СЯЛІБЫ СВЯТЛА




У кіёсках «Саюздруку» з'явілася яшчэ адно выданне (прыемна, што на беларускай мове) — інфармацыйны выпуск Беларускага фонду Рэрыхаў «Кліч». Пра беларускае адгалінаванне рэрыхаўскага руху «ЛіМ» паведамляў ужо. Нагадаем, што днём нараджэння Беларускага фонду Рэрыхаў стала 24 чэрвеня 1990 года. Ён быў створаны па рашэнню Устаноўчай канферэнцыі.

Пра мэты выдання ва ўступным слове «Кліч нашай эпохі» расказвае старшыня Беларускага фонду Рэрыхаў А. Разанаў. Ён, у прыватнасці, зазначае: «Чытач, добры дзень!.. Сябры Беларускага фонду Рэрыхаў вітаюць цябе і запрашаюць да размовы: аб самым істотном, аб самым неабходным, аб самым дзівосным — аб чалавеку і яго запаветных магчымасцях, аб Космасе, аб Настаўніках, аб шляхах, якія вядуць да Сялібы Святла».

«Кліч»— назва невыпадковая. Менавіта такая назва і першай кнігі Вучэння Жывой Этыкі — «вучэння, якое ўзышло з той самай крыніцы, адкуль узышлі вялікія вучэнні чалавецтва—хрысціянства і будызм і прыйшло да нас дзякуючы старэйшым Рэрыхам — Алене Іванаўне і Мікалаю Канстанцінавічу».

У нумары чытач даведаецца (артыкул «Чаша мудрасці») пра Вучэнне, у якім падаюцца агульныя заканамернасці развіцця, ва ўзаемасувязі, прыроды, чалавека і космасу; пазнаёміцца з вытрымкамі з лістоў А. І. Рэрых, атрымае паказальнік найбольш важных публікацый апошняга часу, якія тычацца Вучэння... І застаецца сам-насам з роздумам: верыць ці не, калі пазнаёміцца з заклікам да сяброў Фондаў — «Сцеражыцеся Кашпіроўскага і К°!»

**А. М.**

# «МІЛАЯ, ДАРАГАЯ МАРУСЯ...»

У музеі народнага песняра Якуба Коласа адбыўся літаратурны «чацвер». У хаце дзядзькі Якуба людзей сабралася шмат — не ўсе змаглі размясціцца ў прасторнай зале на другім паверсе. Шчырыя прыхільнікі таленту вялікага майстра прыйшлі, каб ушанаваць памяць сябра і жонкі паэта Марыі Дзмітрыеўны Каменскай. Яна нарадзілася ў 1891 годзе. Цэлы век прайшоў, а светлая памяць назаўжды засталася ў тых, хто душою і сэрцам дакрануўся да роснай і нязгаснай творчай нівы пісьменніка, да невычэрпнай крыніцы дабрыні яго першай памочніцы, самага блізкага друга і дарадчыка творчых вандровак мужа.

Вядучы вечарыны Янка Курбека акрэсліў высакародную, адданую любоў песняра да сваёй сяброўкі, якую не толькі паважаў, цаніў, але без «мілай, слаўнай, добрай Марусі» ён адчуваў сябе вельмі адзінокім... У лістах Коласа да жонкі самыя пяшчотныя, кранаючыя душу радкі, прыязь і клопат пра яе здароўе.

Прыйшоў на вечарыну стары прыяцель сям'і Міцкевічаў народны мастак СССР Заір Азгур. Цікава было пачуць аповяд скульптара пра даўнія сустрэчы з Марыяй Дзмітрыеўнай. У знак шчырай прыязі да чалавека вялікай душы ён падарыў музею бюст Марыі Дзмітрыеўны. Паэт Пятро Прыходзька пачытаў верш «Маці Коласа». Словы ў той вечар прамовілі Яўген Ціхановіч, знаёмыя сям'і дзядзькі Якуба Валянціна Сачок, Усевалад Мазура, Лёня Панкавец. Шмат добрага пра сваю другую маці ўспомніў сын «дарэктара» з «Новай зямлі» акадэмік Мікалай Міцкевіч. Пасля смерці ягонага бацькі, Яські Базылёвага (героя кнігі «На ростанях» Турсевіча), Якуб Колас запрасіў хлапца да сябе жыць.

— Канстанцін Міхайлавіч, Марыя Дзмітрыеўна дапамагалі мне фактычна стаць на ногі, выйсці на жыццёвы прастор. Я не адчуваў сябе чужым у сям'і Якуба Коласа, — мовіў Мікалай Іванавіч, — і ў гэтым галоўная заслуга Марыі Дзмітрыеўны, якая аддавала ўсе свае сілы і энергію выхаванню дзяцей, сеяла добрае, разумнае, дапамагала мужу ў яго творчасці.

Аўтар гэтых радкоў прыгадаў тыя зімовыя, доўгія вечары яшчэ за панскай Польшчай, калі сёстры паэта Міхаліна, Юзя, Маня, браты Уладзя, Міхась, Юзік збіраліся ў хаце Юзі і часта гамонка заходзіла пра сваякоў, што жылі за мяжою ў Саветах. З душэўнай цеплынёй успаміналі сёстры сваю братавую Марусю.

Марыя Дзмітрыеўна па нацыянальнасці руская, але павага да Беларусі, да мужа, да багатай духоўнай спадчыны народа, свая высокая культура, інтэлігентнасць дапамаглі ёй не толькі добра валодаць нашай мовай, а і стаць сумленным карэктарам, уважлівым слухачом і чытачом, часам і рэдактарам коласаўскай творчасці.

На вечарыне выступаўшыя аднадушна адзначалі справядлівасць, спагаду, уважлівасць, дабрыню і пяшчоту як галоўныя рысы характару Марыі Дзмітрыеўны. Пра маці многа і шчыра гаварыў Даніла Канстанцінавіч.

**С. БЕЛЫ.**



Я. Колас, сыны Юрка, Міхась, Даніла і Марыя Дзмітрыеўна. 1928 год.

ПАМЯРКУЕМ

# МЕТАЛ ХАЙ ПОЙДЗЕ НА ЗАПЧАСТКІ

Пра шахцёрскія забастоўкі я не мела пэўнай думкі. Дзякуй праграме «Час» — яна дапамагла. Гэтак «дапамагае» часам кінарэклама. Вам, мабыць, даводзілася бачыць айчынныя кінаролікі: удар, стрэл, пацалунак, аплявуха... Адразу маеш уяўленне, на які фільм лепш не ісці. Так і тут: глядзіш вячэрнюю інфармацыйную праграму — і робіш вывады, процілеглыя задуманым яе вытворцамі. Пра эканамічныя і сацыяльныя патрабаванні шахцёраў нам лічаць за лепшае не гаварыць, затое ўзмоцнена палохаюць спыненнем металургічных заводаў. Адначасова падкрэсліваецца, што метал патрэбен перш за ўсё для **сельскагаспадарчай тэхнікі і запчастак** да яе. Ну-ну, думаю, калі б так, то запчастак гэтых было б да халеры. Аднак жа — няма, нявыкрутка. Хранічны недахоп і вечная вясковая праблема. Значыць, трактары ні пры чым. Недагаворваюць нам штосьці, ой недагаворваюць...

Метал грымеў на сталічных праспектах пад час святочных парадаў, ганяўся за няўзброенымі людзьмі на плошчах Вільнюса, пляваўся кулямі ў Нагорным Карабаху і Асеціі. А таксама падаў абгарэлымі рэшткамі з неба ў далёкай Аргенціне. Цікава, яшчэ не прыдумалі збіраць металалом у касмічнай прасторы? На ім адным краіна магла б жыць пару год без усялякіх домнаў.

У домнах, трэба заўважыць, працэс бесперапынны. Гэта ж не пральня вам, не тонкасуконны камбінат... Спыніцца і... Страшна падумаць, што будзе. Не тое, што трактарны,— каб хаця нумарны завод не стаў з-за недахопу сыравіны. Уявіце, як у дырэктара бяруць інтэрв'ю, і голас яго дрыжыць і зрываецца, як у малога пакрыўджанага дзіцяці ці як у міністраў, што наракалі на шахцёрскую ўпартасць. Чаго добрага, у голасе самога маршала Язава з'явяцца безабаронна-жаласлівыя ноткі...

Хаця не, такое ўявіць цяжка. **Яны** адчуваюць сябе яшчэ досыць устойліва, бо за дзесяцігоддзі нарошчвання ваеннай моцы дзяржаваю звыкліся з выключным сваім становішчам, з **асаблівай** місіяй. Армія разам з ваенна-прамысловым комплексам паспяхова вербавала і скарыстоўвала самых дужых, жыццяздольных мужчын, самых перспектыўных вучоных, самых кваліфікаваных рабочых, з'ядала з апетытам домны каласальныя бюджэтныя сродкі. Яна не толькі пранізала сабой усе поры савецкай краіны, але і з гаспадарскай самавітасцю размясцілася ў краінах сацыялістычнай садружнасці. Мы нават не ўяўлялі, якая яна вялікая, пакуль яе ветліва не папрасілі вярнуцца ў фатэрлянд.

Першая імклівая хваля (64 тысячы) з Усходняй Еўропы ўжо прыхлынула. У Прыбалтыцы адносіны да савецкага войска не лепшыя — з той розніцай, што адтуль яно яшчэ не выводзіцца. Гвалт, крык з боку ваеннаслужачых: жыць няма дзе, сацыяльныя гарантыі не забяспечаны! А як іх можна забяспечыць, калі ўсе, хто вярнуўся, мусяць памяшчацца на еўрапейскім пячатку Саюза, дзе і без таго з жыллём блага?

Канкрэтныя вайскоўцы, жонкі іх і дзеці, пэўна ж, не павінны адказваць за перакосы дзяржаўнай палітыкі. (Як, дарэчы, і іншае рускамоўнае насельніцтва, што істотна разбавіла сабой усе карэнныя нацыі.) Не павінны, але, на жаль, адказваюць!

У часцях ідуць скарачэнні, у тым ліку генералітэту, мусіруецца і ва ўсіх склонах гучыць у прэсе слова «канверсія», але ўсе мы ведаем, як лёгка ў нас што-небудзь пераманіць на справе. Як дайшлі да рэчаў рашучых — спыніць ці перапрафіліраваць тое ці іншае прадпрыемства, так і забуксавала перабудова. Не раўняючы, як трактар у вясновай гразі. У нас (і ў тым уся бяда) усялякае мірнае рашэнне — працяглы **працэс**, а не валявы асабовы акт. Таму і маем рып і скрыгатанне замест імклівага руху.

У свой час мы прынялі на веру абарончую дактрыну і сёння ў недаўменні пытаемся ў сябе: як можна было, абараняючы чалавека, забыцца на самога чалавека? Мусіць, абаранялі больш ідэалы, чым іх носьбітаў, міфічныя перавагі і каштоўнасці сацыялізму, а не народы, якіх няўмольная бальшавіцкая рука развярнула і павяла адзіна правільным шляхам. А колькі зброі прадалі ва ўсе куткі свету, а то і проста **далі**—якому-небудзь Мазамбіку...

Што тут казаць: арміі ў нас стала **многа**. Так многа, што колькасны рост шэрашынельнай папуляцыі стаў пагражаць яе ўласнай жыццядзейнасці. Цо задужэ, то нездрова — нашы былыя сябры па няшчасці даволі трапна сфармулявалі агульначалавечы закон зберажэння **меры**. Але ці ёсць у нас сіла, здольная перавесці гэтую адцягненую мудрасць у практычны план?

Галіна **КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# НАРОД СКАЖА ? НАРОД СКАЗАЎ !

## «Круглы стол» «ЛіМа»

**Сённяшняе жыццё рэспублікі вызначаецца крайняй палітычнай напружанасцю і нестабільнасцю, якія ў многім тлумачацца жорсткім процістаяннем розных партый, сацыяльных груп, палітычных і грамадскіх рухаў. Што нас чакае заўтра, ці ўдасца знайсці шляхі да грамадзянскай згоды — гэтыя няпростыя пытанні сёння хвалююць грамадскасць рэспублікі. Спробам пашукаць на іх адказы быў прысвечаны чарговы «круглы стол» «ЛіМа», на які былі запрошаны (у алфавітным парадку): Валянцін АКУЛАЎ, прафесар, доктар філасофскіх навук; Яўген БАБОСАЎ, член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар Інстытута сацыялагічных даследаванняў АН БССР; Леанід БАРШЧЭЎСКІ, народны дэпутат БССР, член парламенцкай апазіцыі БНФ; Юрый ДРАКАХРУСТ, кандыдат фізіка-матэматычных навук; Зянон ПАЗНЯК, народны дэпутат БССР, старшыня БНФ «Адраджэнне»; Аляксандр САВАСЦЕНКА, загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ; Валянцін ТАРАС, пісьменнік; Аляксандр ЦЯЛЬКОЎСКІ, народны дэпутат Мінсавета, старшыня камісіі па правах чалавека і ахове канстытуцыйных свабод грамадзян; Віктар ЧЫКІН, другі сакратар Мінскага ГК КПБ. У рабоце «круглага стала» прынялі таксама ўдзел намеснік галоўнага рэдактара «ЛіМа» Андрэй ГАНЧАРОЎ і рэдактар аддзела публіцыстыкі газеты Міхась ЗАМСКІ.**

**Фрагменты дыскусіі, якая адбылася, мы і прапануем увазе чытачоў.**

**В. Акулаў:** — Камуністы сцвярджаюць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года стала вялікім здабыткам усяго чалавецтва, сучаснай цывілізацыі. Я асабіста цвёрда перакананы, што бальшавіцкая рэвалюцыя 1917 года была гістарычнай памылкай, а таму палітыка-эканамічная сістэма, якую яна нарадзіла, павінна быць не мадэрнізавана, не палепшана, не перабудавана, а самым радыкальным чынам ліквідавана. Яна не «працуе», і ў прынцыпе «працаваць» не можа, таму што не адпавядае карэнным законам сацыяльнага быцця чалавека. КПСС жа займае пазіцыю, згодна з якой выбар, зроблены ў 1917 годзе, —правільны і ва ўсіх нашых бядотах вінавата не сама сістэма, а няўменне выкарыстаць яе патэнцыял.

**В. Тарас:** — Афіцыйная камуністычная ідэалогія дavoдзіць, што сацыялізм сам па сабе рэч найвыдатнейшая, ды вось, бачыце, яго дэфармавалі. Але які, хочацца запытаць, сацыялізм быў дэфармаваны? Сацыялізм Леніна, якім ён уяўляў яго да Кастрычніка, потым у 1918 годзе, у 1921 годзе? Ці сацыялізм Сталіна або Хрушчова, Брэжнева? Пры кожным новым «павароце» народу казалі, што вось цяпер ужо сацыялізм пакажа, чаго ён варты, раскрые ўсе свае «перавагі».

**В. Чыкін:** — А што тут незвычайнага? Ідзе працэс пазнання ісціны. Вось таварыш Акулаў сцвярджае, што Кастрычніцкая рэвалюцыя была гістарычнай памылкай. Для чалавека з гуманітарнай адукацыяй — досыць смелае сцвярджэнне. Я ж лічу, што рэвалюцыі не адбываюцца па волі нейкіх асоб ці партый, у тым ліку такой малаколькаснай тады, як бальшавіцкая. Кастрычніцкая рэвалюцыя адбылася таму, што павінна была адбыцца. У 1913 годзе, пры росквіце капіталізму ў Расіі, нацыянальны прыбытак у краіне складаў толькі 13 працэнтаў ад нацыянальнага даходу ЗША, прадукцыйнасць працы была ў дзесяць разоў ніжэйшая, чым у тых жа Злучаных Штатах. Калі б гэтыя «расійскія» лічбы былі б удвая-утрая большыя — усё магло б скласціся інакш...

**В. Акулаў:** — Ці не ў нашага Дзяржкамстата вы ўзялі гэтыя лічбы? Тады ўсё зразумела...

**А. Савасценка:** — Таварышы Акулаў і Тарас узнялі пытанні, далёкія ад праблем сённяшняга дня. На такім грунце ў нас размова не атрымаецца.

**В. Чыкін:** — Не разумею, чаму яны пачалі гаворку з таго, што нас раз'ядноўвае, а не аб'ядноўвае.

**А. Савасценка:** — Я думаю, нам трэба сёння пагаварыць аб цяжкім, я б сказаў, трагічным становішчы, у якім апынулася краіна, наша рэспубліка. Мяжой нас раздзяліць не ўдасца, як бы гэтага сяму-таму не хацелася. Якія б канфлікты паміж намі не ўзнікалі, трэба прыходзіць да згоды, бо на карту пастаўлены лёс нашага народа.

**Ю. Дракахруст:** — Аляксандр Андрэевіч, вы заклікаеце нас да кансалідацыі — а навошта яна вам патрэбна? Усё ж у вашых руках...

**А. Савасценка:** — Партыя не можа дзейнічаць старымі метадамі. Сёння ў Саветах усіх узроўняў разам з камуністамі працуюць прадстаўнікі іншых партый і грамадскіх арганізацый. Калі ім паміж сабой не паразумецца, хіба можна чакаць нейкага плёну ў рабоце?

**В. Акулаў:** — Я таксама за кансалідацыю, за дыялог. Але для мяне вельмі важна ведаць, на якім грунце, на якой палітычнай платформе мы будзем шукаць згоду? Вы фактычна дыктуеце свае ўмовы — абавязковае прызнанне сацыялістычнага выбару. Гэты прынцып закладзены ў вашых праграмных дакументах, у праекце Саюзнага дагавору.

**А. Савасценка:** — У нас сацыялістычная дзяржава і ўсе грамадзяне павінны паважаць яе Канстытуцыю. Гэта тым больш важна, што мы збіраемся ствараць прававую дзяржаву.

**А. Цялькоўскі:** — Вы кажаце, Аляксандр Андрэевіч, што кампартыя зацікаўлена ў будаўніцтве прававой дзяржавы. Але як гэта спалучаецца з тым фактам, што ў нашай рэспубліцы кіруючай з'яўляецца партыя, якая нават не мае свайго статута і з'яўляецца, па сутнасці, партыяй іншай дзяржавы? Ці для вас суверэнітэт Беларусі нічога не значыць?

**А. Савасценка:** — Чаму іншай дзяржавы? Мы жывём у адзіным Саюзе. Што тычыцца статута КПБ, дык на яе XXXI з'ездзе, калі памятаеце, стаяла такое пытанне, але яно не было падтрымана належнай колькасцю галасоў.

**А. Цялькоўскі:** — Ні ў адным з 55 тамоў твораў У. І. Леніна вы не знойдзеце тэрміна — прававая дзяржава. Для яго, чалавека, які знаходзіўся ў палоне камуністычных ідэй, прававое грамадства успрымалася чымсьці ад нячысціка. Заснавальнік нашай дзяржавы лічыў, што Саветы павінны спалучаць і заканадаўчую, і выканаўчую ўлады. Адсюль ленінскі тэзіс аб тым, што раздзяленне ўлад — гэта міф, улада заўсёды імкнецца да канцэнтрацыі, КПСС, дарэчы, вельмі ўдала выкарыстала гэтую ленінскую ідэю, сканцэнтраваўшы ўсю ўладу ў сваіх руках. Праўда, на словах камуністы адмаўляюць гэта, як і сёння за нашым «круглым сталом». Маўляў, заканадаўцы робяць незалежна сваю справу, выканаўчыя камітэты сваю, суды — сваю. Праўда, яны не любяць успамінаць, што прадстаўнікі ўсіх гэтых улад сустракаюцца на адным партыйнагаспадарчым актыве, дзе правяць баль партыйныя кіраўнікі.

**Я. Бабосаў:** — Калі мы хочам пабудаваць агульны дом, у якім кожны будзе добра пачуваць, нам трэба выходзіць не з палітычных амбіцый, а з духоўных каштоўнасцей, створаных нашым народам. Давайце гаварыць пра здабыткі духоўнага свету, якія нас аб'ядноўваюць. Няхай наша гаворка сёння выйдзе за межы палітыкі. Будзем помніць, што ў палітыцы заўсёды нехта некаму дыктуе, нехта некаму павінен падпарадкоўвацца...

**Ю. Дракахруст:** — Вы, Яўген Міхайлавіч, заклікаеце нас адмовіцца ад палітычных спрэчак і аб'яднацца, так бы мовіць, на агульначалавечым грунце. Але ж супрацьстаянне паміж намі і вамі, камуністамі, —вынік таго, што не толькі ў пытаннях палітыкі, эканомікі, але і ў падыходах да каштоўнасцей духоўнай сферы мы таксама розныя. Для мяне і маіх аднадумцаў галоўнай вартасцю з'яўляецца свабода. Тут я прынцыпова разыходжуся з камуністычнай ідэалогіяй, якая не прызнае свабоды для ўсіх. Тут ужо закранаў тэму «сацыялістычнага выбару», дэкларавана камуністамі. Хачу падкрэсліць — я супраць такога «выбару», я лічу, што нас можа выратаваць толькі капіталістычная форма гаспадарання. Пра гэта сведчыць вопыт усіх цывілізаваных краін свету.

**В. Чыкін:** — Вы за тое, каб рэстаўраваць капіталізм. А я супраць гэтага. І ні вы, ні я не хочам ахвяраваць прынцыпамі... Дык што, яшчэ адна грамадзянская вайна?

**В. Тарас:** — КПСС апошнім часам палохае народ тым, што дэмакраты, маўляў, рвуцца да ўлады і хочуць развязаць грамадзянскую вайну. Але ж ва ўсім цывілізаваным свеце зусім натуральным успрымаецца імкненне апазіцыйнай партыі прыйсці да ўлады. У краінах, дзе пануе парламенцкая дэмакратыя, апошняе слова належыць выбаршчыку. Чаму ж вы лічыце, што іншыя, не камуністычныя партыі і рухі возьмуцца за зброю? Ці ж мы не ведаем, у чыіх руках зараз зброя?..

**В. Акулаў:** — Я сачу за выступленнямі ў друку Віктара Валянцінавіча Чыкіна. Ведаю, што ён зацяты праціўнік так званай ценавой эканомікі, прыватнай уласнасці на зямлю. Але ж калі зыходзіць з агульначалавечых каштоўнасцей,— да гэтага заклікаў сёння Яўген Міхайлавіч Бабосаў, — з Агульнай дэкларацыі правоў чалавека, кожны грамадзянін мае права валодаць індывідуальнай ці калектыўнай уласнасцю. Чаму ж КПСС не дапускае і думкі аб тым, каб даць сялянам зямлю ў прыватнае карыстанне? Я пра гэта пытаюся яшчэ і як член Рады Беларускай сялянскай партыі.

**Ю. Дракахруст:** — Вы прапануеце кансалідацыю, так сказаць, кампраміс. Але ж кампраміс — гэта ўзаемныя ўступкі. Што гатовы саступіць вы?

**В. Чыкін:** — У праграме партыі з'явілася такое паняцце, як змешаная эканоміка, у якой адначасова існуюць сацыялістычныя і капіталістычныя формы уласнасці. Я асабіста цалкам гэта падтрымліваю.

**В. Акулаў:** — Лаўлю вас на слове. Чаму ж вы тады супраціўляецеся ўвядзенню прыватнай уласнасці на зямлю?

**В. Чыкін:** — Па маім глыбокім перакананні аддаць зямлю ў прыватнае карыстанне — значыць зрабіць трагічную, непапраўную памылку. Як толькі зямля стане прадметам куплі-продажу, яна адразу пяройдзе ў рукі дзялкоў ценавой эканомікі.

**В. Акулаў:** — Дзе ж логіка —то вы за змешаную эканоміку, то адмаўляеце сялянам у зямлі? Вы ж, мабыць, ведаеце, што асноўнымі лозунгамі бальшавікоў у час Кастрычніцкай рэвалюцыі былі: зямля—сялянам, фабрыкі — рабочым. Атрымалі і тыя, і другія...

**В. Чыкін:** — Я не вялікі спецыяліст у аграрных пытаннях, бо вырас, як кажуць, на асфальце, але лічу, што важна не валодаць зямлёй, а працаваць на ёй, вырошчваць ураджай. Ніхто гэтаму не перашкаджае... Вы гаворыце пра кампраміс, і мы гатовы прайсці сваю палову шляху. Але атрымліваецца, што мы даём палец, а вы хочаце адхапіць усю руку...

**Л. Баршчэўскі:**—У верасні мінулага года парламенцкай апазіцыяй было пастаўлена на разгляд дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі канкрэтнае пытанне — аб зменах у Канстытуцыі БССР, якія тычыліся менавіта прыватнай уласнасці на зямлю. За нашу прапанову прагаласавала 84 чалавекі, але група дэпутатаў-камуністаў, якая мае большасць у парламенце, заблакіравала нашу прапанову, хоць яна была досыць памяркоўная, канструктыўная. Мелася на ўвазе ажыццявіць пераход да прыватнай уласнасці на зямлю на працягу дзесяці гадоў, а не махам-спехам. Але камуністы ў парламенце не зрабілі нам насустрач ні пайкроку.

**А. Савасценка:** — Не трэба скажаць факты. Выступаючы супраць прапановы апазіцыі аб прыватызацыі зямлі, дэпутаты-камуністы дзейнічалі ў адпаведнасці з дакументамі, прынятымі XXXI з'ездам КПБ. З'езд, на якім былі прадстаўнікі многіх партарганізацый рэспублікі, выказаўся па гэтым пытанні адназначна — зямля не можа быць прыватнай уласнасцю.

**Л. Баршчэўскі:** — Так, дэпутаты-камуністы праводзілі лінію з'езда КПБ. Але ж члены кампартыі Беларусі складаюць толькі дзесятую частку дарослага насельніцтва рэспублікі. Што тычыць грамадскай думкі наконт прыватызацыі зямлі, дык Яўген Міхайлавіч Бабосаў не дасць схлусіць: недзе 80—90 працэнтаў насельніцтва выказваецца за...

**А. Савасценка:** — Давайце не будзем вырашаць за народ. Хай ён выкажацца па гэтым пытанні на рэферэндуме, які высветліць даваць ці не даваць зямлю ў прыватную ўласнасць.

**В. Акулаў:** — Ці павінны мы ва ўмовах таталітарнага рэжыму агульным галасаваннем вырашаць пытанні, звязаныя з неад'емнымі правамі чалавека?

**Ю. Дракахруст:** — Справа ў тым, што для КПСС зусім неабавязкова мець большасць у Вярхоўным Савеце — усё роўна яна кіруе краінай.

**Л. Баршчэўскі:** — Калі мы на сесіі Вярхоўнага Савета паставілі на галасаванне пытанне аб забароне выкарыстання міліцыі ў палітычных мэтах, яно не прайшло зноў жа з-за супрацьлення партыйнай групы.

Мяне таксама абурае, калі партапаратчыкі пачынаюць ускладаць на нас віну за эканамічную і палітычную напружанасць у рэспубліцы. Маўляў, гэта яны, бэнээфаўцы і іншыя апазіцыйныя партыі і групы

(Працяг на стар. 12).



Л. БАРШЧЭЎСКІ, В. ТАРАС, А. САВАСЦЕНКА, Я. БАБОСАЎ, В. ЧЫКІН, З. ПАЗНЯК, В. АКУЛАЎ, Ю. ДРАКАХРУСТ, А. ЦЯЛЬКОЎСКІ.

# Маральнасць літаратуры, або Эпоха вялікага пакаяння

ГАДОЎ дзесяць таму вельмі я здзівіўся. І было чаго. Уявіце, еду гэта «Звяздой» па сваіх прафесійных бібліятэчных справах у горад трох (пакуль!) рэвалюцый Піцер, і ў вус, як кажуць, не дзьму. Раптам... Узнімаю вочы, а супроць сядзіць вясковага выгляду хлапец і з захапленнем (нават губамі прыцмоквае) чытае нейкую ксёнжачку. Зірнуў я скоса — а яна ж на мове беларускай. І аўтар быў, наколькі памятаю, не надта й вядомы. Вось тут я і здзівіўся. Няўжо, думалася, у простым народзе (з кароткай размовы вынікала, што чыгуначны мой спадарожнік працаваў у калгасе трактарыстам (яшчэ засталіся магікане, якія не выракліся роднага слова і вось так, не «па праграме», не дзеля інтэлігенцкай выкшталцонасці, а для сябе, для душы чытаюць беларускіх пісьменнікаў?

Прайшоў час. Зараз, калі ўбіраецца ў моц трэцяе беларускае Адраджэнне, становіцца зразумелым — вынішчыць мову цэлага народа, а тым самым яго літаратурныя і чытацкія традыцыі не так і лёгка. І пакуль жыве хоць адзін беларус, будзе жыць беларуская мова — гэта не дэкларацыя, прыдуманая Я. Купалам, а аксіёма гісторыі. Вось толькі каго меў на ўвазе пясняр: беларуса наогул ці нацыянальна свядомага беларуса? Хто галоўны захавальнік мовы: просты народ ці яго найбольш адукаваная частка — інтэлігенцыя? Што важнейшае — вусная творчасць ці прыгожае пісьменства? Скажаце: рытарычныя пытанні і адказ відавочны — важнае і раўнацэннае і тое, і другое. Але гэта ў ідэальных умовах грамадскага быцця. У розныя ж эпохі Кліо давала культуры нашага народа свае «ўводныя» і «абмежаванні», часам даволі жорсткія, што хутчэй правакавалі на духоўную нацыянальную анігіляцыю. У XVII—XVIII стагоддзях (паланізацыя) мову захоўвала, галоўным чынам, сялянская Казка і Песня. А на памежжы вякоў дзевятнаццатага і дваццатага (русіфікацыя) якраз інтэлігенты-адраджэнцы, нашчадкі Скарыны далі моцны штуршок яе далейшаму развіццю і, найперш, пісьменству. Настолькі моцны, што нават семдзесят гадоў панавання прынцыпу камуністычнай партыйнасці ў літаратуры не змаглі перарэзаць усе яе жыватворныя артэрыі.

Што мы маем зараз? Наколькі слушны пісьменнік і народны дэпутат Л. Баршчэўскі, які на апошнім з'ездзе СП Беларусі сцвярджаў: пісаць кнігі трэба не для абстрактнага ўсярэдненага рабочага-селяніна-інтэлігента, а на нацыянальна свядомага чытача? Канстатуючы, што колькасць апошніх — тысяча-другая чалавек (у 4—5 разоў больш, чым саміх членаў СП), ён прапануе пісьменнікам выхоўваць сабе чытача, у першую чаргу, шляхам перакладу Сальмы Лагерлёф, Фрэдэрыка Містраля і г. д. Разумею, гэта неабходна. Шчыра вітаю выданне на беларускай мове «Скарбаў сусветнай літаратуры». Але таксама ўсведамляю — гэта на эліту, зноў-такі на інтэлігенцыю. Такім шляхам мы крыху пашырым межы духоўнай беларускамоўнай рэзервацыі і ўсё роўна застанемся з ёй. Выйсце бачыцца (поруч з прапанаваным Л. Баршчэўскім) у франтальнай атацы на русіфікацыйныя настроі і працэсы, уцягненні ў шыхты і шэрагі прыхільнікаў беларускай мовы і літаратуры сялян, рабочых — звычайнага, радавога, так бы мовіць, абывацеля. А іх не адна-дзве тысячы. І нацыянальная свядомасць у многіх з іх у крыві. Але гэта самасвядомасць трохі іншага кшталту — неабуджаная, ці што, павязаная ў пэўнай ступені эканамічнымі дабротамі (інакш кажучы, калі ўвесь свет засціць кавалак каўбасы). Як уздзейнічаць на яе «моцай веды»? Тут не абысціся без хаўруснікаў. Прывяду адзін прыклад. А. Слесарэнка, наш пісьменнік, акцёр (роля Мірона ў фільме «Палескія рабінзоны» (1935) і інш.) і майстра-чытальнік мастацкага слова, успамінае, што ў дзяцінстве, на Брагіншчыне, яго першым і непаўторным настаўнікам у чытанні быў амаль непісьменны дзед Гаўрыла. Той ніколі нідзе не вучыўся, але ведаў на памяць вялікія раздзелы з «Новай зямлі», мноства іншых паэтычных твораў і чытаў іх вучням, сялянам, любому стрэчнаму. На такіх сучасных ахвярнікаў з народа і неабходна абапірацца ў пашырэнні роднага слова. Патрэбны таксама адпаведныя мастацкія формы і сродкі. Калі хочаце, больш прыземленыя. Для простага народа трэба і пісаць проста. Я свядома завастраю думку, але ў аб'ектыўнасці яе ўпэўнены. Наўрад ці захапіўся б дзед Гаўрыла верлібрамі альбо версэтамі. (Выключэнні толькі пацвярджаюць правіла).

«Простая літаратура» — назавём яе так — ствараецца і адпаведнымі пісьменніцкімі дараваннямі. Яе вытокі — у фальклоры, у творчасці П. Багрыма, Ф. Багушэвіча, ананімнага аўтара паэмы «Тарас на Парнасе», Я. Коласа, у заходнебеларускіх календарах і перыядычных выданнях для сялянства. Некалі і малады У. Караткевіч у артыкуле «Якім шляхам ісці?» адстойваў магчымасць існавання побач з філасофскімі вершамі і вершаў «наіўных», «кніжных» і г. д., за што крытыкаваўся Р. Бярозкіным. (Гл. яго рэцэнзію «Міма паэзіі» ў «ЛіМе» ад 26 жніўня 1959 г.).

**Дадзеная канцэпцыя, крый Божа, не заве да нейкай рэанімацыі вульгарызатарства 30-х з яго падзелам пісьменнікаў на буржуазных, сялянскіх, пралетарскіх і «попутчиков», супрацьпастаўленнем творчасці М. Багдановіча, Я. Купалы, М. Чарота і Ц. Гартнага. Крытэрый тут не класавы падыход, а, магчыма, адукацыйны ўзровень чытачоў. Прытым «простая літаратура» не значыць шэрая. На ўвазе маецца, хутчэй, тое простае, што геніяльна. Помніцца, помніцца някрасаўская мара — устаноўка на мужыка, які панясе з базара не «милорда глупого», а Бялінскага і Гогаля. Напісаў і падумаў: ва ўсіх развітых літаратурах свету ёсць так званая бульварная, масавая і да т.п. літаратура. Добра гэта ці дрэнна — адпаведныя функцыі ў грамадстве яна нясе. Дык, можа, і нам шырэй выкарыстоўваць яе магчымасці для беларускамоўнага ўплыву на найменш адукаваную і нацыянальна несвядомую частку насельніцтва, якая ўсё роўна нічога іншага не чытае і чытаць не будзе? Але гэта тэма асобнага разгляду.**

**Як на сучасны момант, можна быць упэўненым: нацыянальна свядомая інтэлігенцыя без духоўнага пажытку не застанецца. Вяртанне спадчыны рэпрэсіраваных дзеячаў культуры, творчасці ўсіх, хто гуртаваўся ў «Тутэйшых» і вакол іх, з'яўляюцца таму своеасаблівай зарукай. А вось «простая літаратура»? Ці забяспечваецца яе будучыня? На жаль, сярод маладых літаратараў нейкай плыні ў гэтым напрамку не бачна.**

У чым жа справа, можа, вінаваты папярэднікі? Тут і наспела тая хвіліна, калі ў дзверы пабудаванай намі лагічнай хаткі настойліва загрукала неабходнасць прааналізаваць пісьменніцкую спадчыну 50-х — сярэдзіны 80-х гадоў. Калі-калі, а ўжо тады, відаць, пісалі проста. Галоўнымі крытычнымі прынцыпамі агалошваліся ж партыйнасць і народнасць (дакладней, на сённяшняе вока, — псеўданароднасць), а «ўсялякія сюррэалізмы і авангардызмы» выпальваліся гарачым жалезам.

А ЗАРАЗ дазвольце зрабіць лірычнае адступленне, у якім хацелася б выкласці некаторыя эстэтычныя і чалавечыя погляды і падыходы да паэзіі ўвогуле. Пагадзіцеся, кожны чытач шукае ў паэзіі як нейкім аб'екце пазнання менавіта тое, што адпавядае яго суб'ектыўнаму светапогляду, асабіста яго маральна-эстэтычным і філасофскім перакананням. Гэта значыць, ён заўсёды ўнутрана супастаўляе сваё «я» і «я» паэта і прыходзіць да высновы — гэта «мой паэт», а гэта — не. Дадзеныя нататкі напісаны з пазіцыі чытача — тыповага прадстаўніка 30-гадовай гуманітарнай інтэлігенцыі, так бы мовіць, сярэдняй рукі (не з літаратурнага ці наогул мастацкага асяроддзя), што доўгі час лічыла вартай сусветнага ўзроўню толькі паэзію М. Багдановіча. Так, так, нават талент Купалы і Коласа здаваўся непамерна раздзьмутым, настолькі іх творчасць была ў школе і ў інстытуце заідэалагізавана і запалітызавана. Аб праграмных паэтах X, Y, Z і гаворкі няма. І справа не толькі ў тым, што ў праграмы ўключаліся дзьмутыя велічыні, але і ў тым, што і ў таленавітых паэтаў браўся далёка не лепшы творчы набытак. Адно, каб — «адпавядаў», «не распальваў», «даваў станоўчы прыклад» і да т.п.

Таму асабіста я напрыканцы 70-х заглыбіўся ў рускую паэзію пачатку XX ст.: Бальмант, Гіпіус, Гумілёў, Салагуб, Хадасевіч, Хлебнікаў (тут хоць першакрыніцы былі не ў спецсховішчах). Здавалася, у беларусаў такой паэзіяй і не пахне. Адкапаўшы, нарэшце, самавукам «нашаніўцаў», «заходнебеларусаў», паэзію А. Гаруна, В. Ластоўскага, Л. Родзевіча, І. Канчэўскага, быў, што называецца, уражаны ў самае сэрца. Аказваецца, паўвека таму самымі разнастайнымі паэтычнымі сродкамі і, галоўнае, з глыбокай нацыянальнай адметнасцю ўжо выказана шмат з таго, да чаго я толькі падыходзіў у сваім культурным развіцці. Пасля «Як агонь, як вада» А. Лойкі зусім у іншым — чалавечым — свеце паўстаў Янка Купала з паэмамі «Сон на кургане», «На Дзяды», «Тутэйшыя», «незалежніцкімі» вершамі і артыкуламі. Аднойчы сябра (дарэчы, фізік па адукацыі) распавёў пра «Шлях-360» А. Разанава. Ад таго моманту А. Разанаў — «мой паэт». З захапленнем зараз шукаю «сваё» сярод творчасці эмігрантаў Н. Арсенневай, М. Сяднёва, А. Салаўя, а таксама Л. Геніюш і Я. Пфляўмбаўм, спадчыны К. Сваяка, У. Жылкі, вершаў сучаснікаў — А. Сыса, С. Сокалава-Воюша, В. Куртаніч, М. Скоблы і інш. Паступова абудзіўся, ужо на новым якасным узроўні, і інтарэс да паэзіі 50—70-х гадоў. Што ж у ёй бляск, а што галеча?

ГРАМАДЗЯНСКАСЦЬ паэзіі, як сувязь з палітычнымі працэсамі, якія адбываюцца навокал. З цікавасцю сачу за дыскусіяй па гэтым пытанні (гл., напрыклад, артыкулы С. Дубаўца і А. Лойкі ў «Крыніцы» № 2 за 1989 г., «ЛіМе» ад 23.III. і 22.VI г. г.). Яны, зразумела, гіпербалізуюць, — кожны ў свой бок — і таму ў нечым не пагаджаешся з адным, у нечым з другім.

Вось А. Лойка выказвае жаданне «пацешыцца» «ўласна літаратурнымі рэцэнзіямі» і пагражае публічным высцябаннем тым, хто прыўносіць элемент палітызаванасці ў прафесійную крытыку. Так, белапапаўскі вульгарны сацыялагізм і жданаўскае палітыканства адкінулі і літаратура, і само жыццё. Але ж, не забывайма,—вульгарны! І спробы даць паўнацэнны аналіз літаратурных працэсаў адно з пазіцыі чыстай эстэтыкі — яўна бясплённыя. Ленін меў рацыю (пры гэтым мусім памятаць, што мноства яго афарыстычных выказванняў — вынік абагульнення ці творчай трактоўкі філасофскіх розумаў мінулага ўключан да самой Бібліі), калі сцвярджаў, што «жыць у грамадстве і быць вольным ад грамадства нельга». Іншая справа, што класік марксізму пакінуў па-за ўвагай другі бок медаля: залежнасць грамадства ад асоб, з супольнасці якіх яно складаецца. Ці ж не ступень вольнасці кожнай асобы ў канчатковым выніку абумоўлівае ступень вольнасці грамадства ў цэлым?

Трапна выказаўся з гэтай нагоды ў лісце да Усесаюзнага з'езда Саюза пісьменнікаў (1967 г.) А. Салжаніцын: «Літаратура не можа развівацца ў катэгорыях «прапусціць — не прапусціць», «пра гэта можна — пра гэта нельга». Літаратура, якая не ёсць паветра сучаснага ёй грамадства, якая не смее перадаць грамадству свой боль і трывогу, у належны час папярэдзіць аб грознай маральнай і сацыяльнай небяспецы,—не заслугоўвае даверу ва ўласнага народа, і тыражы яе не для чытання, а для утыльсыравіны».

**Вось С. Дубавец пераконвае нас, што беларуская савецкая літаратура настолькі не беларуская, наколькі савецкая. Савецкая, па-ягонаму, значыць сацыяльная ці «мы» (у адрозненне ад «я»). Пафас думкі падзяляю, але шкада, што сэнс яе трошкі зацемнены з-за неадэкватнага выкарыстання катэгорыі «сацыяльнае», бо сацыяльнае — як савецкае, так і несавецкае. І калі пад савецкім разумець адыёзны камуністычны рэжым, які панаваў у нас раней, то можна сказаць наогул коратка: настолькі не літаратура, наколькі савецкая. Усё больш-менш у ёй прыдатнае рабілася насуперак, а не дзякуючы такому савецкаму. У рэшце рэшт, справа, здаецца, усё ж не ў «сацыяльным», «нацыянальным», «ідэалагічным», а ў тым, што справа дрэнь, калі гэтыя катэгорыі пераўтвараюцца ў фетыш, жупел абсалютызму, таталітарызму (ці як там яшчэ яго?!) і насілля над духоўнай культурай чалавека. Калі сацыяльнае, агульнае пераважае над асабістым. Калі інтэрнацыянальнае, касмапалітычнае ігнаруе нацыянальнае, суверэннае. Калі дагматычна-камуністычнае гняце агульначалавечае, гуманістычнае. Тут, безумоўна, павінна падтрымлівацца адпаведная раўнавага і ўладарыць дыялектычны закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцей. Інакш — здаровае духоўнае жыццё грамадства непазбежна парушаецца. Як парушалася яно ў гады сталіншчыны і брэжнеўшчыны. Што прымушала тады пісьменнікаў, у лепшым выпадку, падпарадкоўвацца цэнзурнаму ціску, рабіць уступкі ў структуры і змесце сваіх твораў, у горшым — прызнавацца ў амаль фізіялагічнай любові да партыі, па выразу С. Грахоўскага, «складаць гімны нягоднікам» і «славіць зладзеяў»?**

Дабрабыт. Вера. Страх. Подласць.

Паасобку. Разам. У розных спалучэннях і камбінацыях.

ІМКНЕННЕ да дабрабыту (пасада, грошы, прэміі), да ціхага і спакойнага жыцця ў той ці іншай ступені прыналежна бадай кожнай чалавечай істоце. Усе мы, як той казаў, — людзі. Гэта можна не прымаць, але зразумець можна.

Пад верай разумею веру ў камуністычныя ідэалы. У пісьменнікі 50-60-х гадоў прыходзілі ўчарашнія выхаванцы піянерскай і камсамольскай арганізацый, якіх яшчэ не да канца заглынула янычарскае нутро КПСС падобна да гойеўскага Сатурна, пажыраючага сваіх дзяцей. Моладзь заўсёды інтуітыўна цягнецца да сцвярджэння ідэалаў справядлівасці і вольнасці. Дадайце сюды і магутны прапагандысцкі апарат, які нястомна цвярдзіў пра «светлую будучыню». Таму іх можна дзесьці апраўдаць, прабачыць за пэўную маральную і грамадзянскую слепату менавіта ў тыя гады, але ў 70-я і 80-я пасталелых, паразумнелых — не і ніколі.

Страх, які межаваў з жахам, ахапіў ацалелыя аскепкі СП Беларусі пасля кампаніі супраць нацдэмаў. Надоўга, а многія і назаўсёды замаўчалі. У прамым і пераносным сэнсе. Страх генетычна перадаўся новым пакаленням. Выключэнне — Л. Геніюш, якую пасля лагераў хоць і трымалі фактычна пад хатнім арыштам, ды не скарылі. Яна — Геній Духу. І ўсё ж — выключэнне.

Страх каго вымушаў трусліва лгаць — сабе, людзям, Богу, каго кідаў у абдымкі подласці. Подласць немагчыма ні зразумець, ні вытлумачыць, ні дараваць. Нездарма Гогаль у «Страшнай помсце», каб неяк выкрыць, асэнсаваць яе прыроду, ужывае фантастычна-жахлівы вобраз мерцвякоў, якія грызуць саміх сябе за пракляцце роду. Рэалістычны падыход тут пасуе. Нездарма наш сучаснік паэт М. Скобла ў «Полі Юдавым» выкарыстоўвае аналагічныя мастацкія сродкі і распавядае пра здраднікаў Беларусі, зароджаных ад разнесенай груганамі Юдавай крыві: «Нараджаліся — невідушчыя і халодныя, бы ўюны, і да белых грудзей дапушчаны, цела Маці кусалі яны».

**Генезіс веры, страху, подласці, імкнення да дабрабыту — г.зн. маральных якасцяў, якія вымушалі да канфармізму, залежаў не толькі ад самой асобы. Была Сістэма і яе адпрацаваная рэпрэсіўная машына, якая націскала, калі патрэбна — з большай ці меншай сілай, — на болевыя кропкі і выпрабоўвала загартаванасць чалавечай душы.**

**Перыяды сацыяльных эксперыментаў. Гісторыкі з часам знойдуць і дадуць ім дакладныя навуковыя найменні. А на мой розум, што датычыць літаратуры (шырэй — мастацтва яшчэ шырэй —**

**грамадскага жыцця ўвогуле), назваць бы тыя перыяды эпохамі—гэтулькі трагедый узаемаадносін асобы і грамадства ўмяшчае кожны з іх, што чалавецтву раней і за сто гадоў кашмарнага сну не прыснілася б. Так бы і гучала: Эпоха Надзей і Спадзяванняў (да пачатку 30-х), Эпоха Крывавага Канфармізму (да пачатку 50-х), Эпоха Мірнага Канфармізму (да сярэдзіны 80-х).**

У 30-я—40-я канфармізм сапраўды вымушаўся крывёю. Сістэма фізічна нішчыла свае ахвяры. Зломлены былі нават самыя стойкія і таленавітыя. Вядомы з гісторыі і шматлікія «пісьмы беларускага народа Сталіну», складзеныя ў вершах і прозай рознымі пакаленнямі сяброў СП БССР. Вядомы і салідны том іх вершаванай прадукцыі «Правадыру народаў» (Мн., 1940). Насуперак сабе пісалі Гарэцкі і Бядуля, апяваў «хараство Камуны» Дубоўка. Верылі яны? Баяліся? Часова адступалі, каб захаваць жыццё? У 1930-м пасіўна супраціўляўся Купала, хаваючыся за нож, хоць і звернуты вастрыём на сябе. А ў 1937-м чыясьці рука ўжо вадзіла яго пяром (нат не хочацца перакладаць на родную мову): «Нашу прекрасную Советскую Белорусь, расцветшую после долгих веков рабства и национального угнетения, троцкистские изверги хотели превратить в колонию немецкого фашизма. Они хотели разгромить наши фабрики и прекрасные колхозы, зажившие светлой, радостной сталинской жизнью. Пусть эти предатели будут прокляты навеки. Слава нашему великому Сталину — отцу и учителю народов! Янка Купала» («Литературная газета» за 1.II.1937 г.). Ці ж быў такі крыважэрны Якуб Колас, за подпісам якога да «працэсу трацкістаў» выйшаў у «Известиях» (26.01.1937 г.) артыкул «Они не имеют права жить!»? Пытанні, пытанні, пытанні. Шмат якія з іх зняты дзякуючы артыкулам Б. Сачанкі пра літаратурны працэс перыяду сталінскіх рэпрэсій, успамінам іх ахвяр — Л. Геніюш, С. Грахоўскага, Б. Мікуліча і інш. Шмат якія чакаюць адказу.

У 50—70-я гады Сістэма і пісьменніцкі лагер Беларусі перайшлі да адносна мірнага суіснавання. Шалі, вядома, калыхаліся ў той ці адваротны бок, але нязначна і ненадоўга. Бо круці—не круці, не было ў нас моцнага дысідэнцкага руху, як у той жа Расіі. Былі В. Быкаў, А. Карпюк, А. Бембель — яшчэ колькі чалавек — і ўсё. А большасць прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі жылі сыта, задаволена—проста існавалі. Як выказаўся С. Дубавец, «капітаны СП узялі курс на дно». І гэта праўда, бо некаторыя з іх стаялі нават на чале—хай сабе і намінальна, але згодна Канстытуцыі — дзяржаўнай улады на Беларусі. Значыцца, мелі сякія-такія кіраўнічыя рычагі. Але не выкарыстоўвалі іх—Сістэма трымала раўнавагу. Таму роля якраз маладых літаратараў, асабліва аб'яднання «Тутэйшыя» ў абуджэнні напрыканцы 80-х нацыянальна-духоўнай свядомасці — неацэнная. Сведчу — колькі разоў сам быў назіральнікам, як пры адным толькі слове — «Тутэйшыя!» — вочы дробных і сярэдніх партыйных і адміністрацыйных чыноўнікаў проста на лоб лезлі. Не абражаючы годнасці маладых і не ставячы пад сумненне іх гатоўнасць ахвяраваць жыццё на алтар Бацькаўшчыны, мушу, аднак, выказаць упэўненасць, што перанясі іх машына часу гадоў на шэсцьдзесят назад (а мо і гадоў колькі наперад?) і звядзі неба ў аўчынку, — юды-здраднікі з'явіліся б і сярод іх. На мой, хай сабе і песімістычны погляд, суадносіны колькасці добрых і злых людзей у грамадстве — велічыня пастаянная ва ўсе часы і эпохі. Мяняецца хіба ступень рэалізацыі патэнцыялу дабра і зла.

ПЕРАНЯСЁМСЯ на той жа машыне часу ў шмат у чым павучальны перыяд хрушчоўскай адлігі. Дакладней — у 1959 год. У гэтым годзе выходзіць, напрыклад, першая кніжка вершаў А. Дзеружынскага «Песні маладосці». У ім адчуваецца лірычнае дараванне паэта. Але разгорнем «ЛіМ» за 30.IX.1959 г. і ў змешчанай там рэцэнзіі прачытаем, што «тэма Радзімы, тэма радаснай долі савецкага чалавека праходзіць праз усю гэту невялічкую кніжку», што паэт «услаўляе Камуністычную партыю, вялікага правадыра У. І. Леніна, складае песні пра новае аблічча Беларусі, пра яе працавітых і жыццярадасных людзей». Па такіх крытэрыях ацэньвалася тады вартасць паэзіі. Можа, так прарэцэнзавалі толькі дадзены зборнік, можа, гэта выключэнне? Ды не. Вось У. Калеснік у рэцэнзіі «Беларуская паэзія сёння», пішучы пра еўрапейскі цыкл вершаў М. Танка, акцэнтуе ўвагу на тым, як «паэту ўдалося адкрыць вочы моладзі на бляск і галечу (галечу! — **В. Г.**) заходняй цывілізацыі, абудзіць пачуцці рэвалюцыйнага гуманізму і любві да сваёй радзімы» («ЛіМ» за 21 студзеня 1959 г.). Вось «Патрыятычная песня» П. Панчанкі: «Маці-радзіма, я рад, што жыву камуністам, Сын твой, гатовы пайсці за цябе і на смерць, Больш за жыццё берагчы буду сцяг твой агністы, Сцяг, над вякамі якому свяціць і шумець...» («ЛіМ», 22.IV.1959 г.. Дзякуй Богу, здаецца сёння «агністы сцяг» П. Панчанкі добра-ткі пабялеў па краях...

**Вось крытык А. Адамовіч дзеліцца сваімі ўспамінамі, пра Брусельскую выстаўку і асабіста пра павільён «50 год сусветнага мастацтва». Аказваецца, мадэрнісцкая выстаўка выяўленчага мастацтва зрабіла на яго ўражанне «...крывога люстра, у якім у пачварным выглядзе прадстаўлены і чалавек і прырода (...) Радасна было бачыць, як святлелі твары ў наведвальнікаў, калі яны заходзілі ў залу, дзе было прадстаўлена савецкае мастацтва (...) Прайшоўшы скрозь строй штампаваных абстракцыянісцкіх тварэнняў, пачынаеш асабліва заўважаць, які шырокі дыяпазон творчых пошукаў у мастакоў сацыялістычнага рэалізму, як багата тут праяўляецца творчая індывідуальнасць (...) Па-сапраўднаму партыйным з'яўляецца толькі тое мастацтва, якое вырастае са страснай камуністычнай перакананасці мастака (...) Подых камуністычнага заўтра надае і надасць літаратуры нашай той пафас, забяспечыць той узлёт, якога мы яшчэ не ведалі» («ЛіМ», 18.II.1959 г.).**

**Га! з'еў С. Дубавец — вы ж даводзіце, шаноўны, пра падаўленне «я» і грамыхлівае дыктатарства «мы» ў ранейшай «савецкай» культуры, а тут бачыце — «багата праяўлялася творчая індывідуальнасць», праўда, пры ўмове «страснай камуністычнай перакананасці».**

На афіцыйных узроўнях гучала тое самае. Даклад старшыні СП БССР П. Броўкі на IV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі: «Камуністычная партыя дбайна вырошчвала літаратурныя кадры (...) Камуністычная партыя Беларусі ўсяляк дапамагала развіццю здаровага літаратурнага руху і сурова крытыкавала ўсялякія адхіленні ад савецкага мастацтва і нацыяналістычныя настроі асобных пісьменнікаў» («ЛіМ», 13.II.1959 г.).

Ды і мінулае — не, не, а і патыхала ледзяным ветрыкам. Сам Л. Бэндэ — жывы курылка! — у сваёй «творчай» манеры яшчэ грукоча на старонках «ЛіМа» і шкадуе ў сто другім нумары ад гэтага ж года пра неўвайшоўшыя ў двухтомнік (1958 г.) М. Чарота радкі накшталт: «Кулацтва дзікае ў роспачы галосіць!», «Як клясу знішчым вашу мы апору», «Варожую зруйнуем мы навалу Магутным поступам сацыялізму». Справа, дарэчы, не ў тым, што дзеля гістарычнай аб'ектыўнасці творчую спадчыну паэта не трэба занадта рэдагаваць (чытач зараз адукаваны — разбярэцца, што да чаго), а ў тым, як Бэндэ амаль упіваецца патэтыкай «грамадзянскіх войнаў», як грозным жупелам рэліктавых часоў выцягвае і з непрыхаванай асалодай вядзьмарыць над чаротаўскім «Суровы прыгавор падпісваю першым».

Думаю, прыкладаў хопіць. Безумоўна, Сістэма падкармлівала пісьменнікаў, раздаючы так званыя сацыяльныя заказы, а ўзамен па-мефістофельску выцягвала душу паэта. Велічыня таленту і памер «значнасці», пераконваемся, ролі не адыгрываў. Сабе ва унісон Сістэма настройвала і вялікую, і маленькую ліру. Схавацца ад яе ўплыву было амаль немагчыма. Таму, бадай, заканамерна наступнае: святымі адразу не становяцца. Толькі калі пройдзеш цяжкі шлях пазнання, можна скінуць з сябе друз памылак і аблуд. Моцныя духам да гэтага прыходзяць самі, слабейшых пераконвае час. А злыдняў і магіла не выправіць...

Відаць, кожнаму сумленнаму творцу неабходна зараз выставіць сабе асабісты маральны рахунак. Як гэта зрабіў крытык Нічыпар Пашкевіч («ЛіМ», 25.V.1990 г.). Ён шчыра прызнаецца, што, заглядваючы ў даўнейшыя напісаныя старонкі, перажывае няёмкасць за пэўную прадузятасць думкі, за аднабокую падгонку асобных твораў, вобразаў, сітуацый да ідэі; карані эфекту «ваверкі ў коле» бачыць у кансерватыўнасці грамадскай атмасферы, прымітыўнасці нарматыўнай эстэтыкі...

Пачынаецца Эпоха Вялікага Пакаяння.

Яе не трэба саромецца. Яна — наспела. Яна — аб'ектыўнасць.

**Валерый ГЕРАСІМАЎ,**
**галоўны бібліёграф**
**Урадавай бібліятэкі**
**імя А. М. Горкага.**

## Віншуем!

Споўнілася 50 гадоў паэту Вячаславу Дашкевічу. Штотыднёвік віншуе яго з днём нараджэння, зычыць новых творчых поспехаў.





## Віншуем!

Споўнілася 60 гадоў крытыку, даследчыку літаратуры Івану Чыгрыну. «ЛіМ» віншуе Івана Пятровіча з юбілеем, жадае яму далейшага плёну ў навуковай дзейнасці і прадстаўляе чытачу новую кнігу І. Чыгрына «Рэальнае і магчымае», якая гэтымі днямі пабачыла свет у выдавецтве «Навука і тэхніка».

# ПРАВА НА ЎЛАСНЫ ПОГЛЯД

Для таго, хто пастаянна сочыць за навінкамі па літаратуразнаўстве, кніга Івана Чыгрына «Рэальнае і магчымае», якая мае падзагаловак «Проза Якуба Коласа», успрымаецца заканамерным крокам у даследчыцкім пошуку аўтара. Прынамсі, дзве яго папярэднія працы «Проза «Маладняка». Дарогамі сцвярджэння» (1985) і «Крокі. Проза «Узвышша» (1989) пераканалі, што І. Чыгрын даўно цікавіцца праблемамі станаўлення беларускай прозы, засяроджваючы ўвагу на тых аспектах іх, што ў нечым знаходзіліся па-за ўвагай навукоўцаў, ці патрабуюць сёння свайго пераасэнсавання. І сам І. Чыгрын ва ўступным слове не хавае таго, што гэтыя тры яго літаратуразнаўчыя працы ўзаемазвязаны: «Кніга «Рэальнае і магчымае»... з'яўляецца далейшай распрацоўкай складанай праблемы на аснове творчай практыкі класіка і ў пэўным сэнсе ўяўляе сабой заключную, абагульняючую частку цыкла».

На аснове творчасці Я. Коласа І. Чыгрын прасочвае эвалюцыю развіцця таленту аднаго з самых выдатных нашых мастакоў слова, высвятляе ўзаемаадносіны таго, што было закладзена, як кажуць, самой прыродай (рэальнае), і набытага ў працэсе судакранання з жыццём, са складанымі працэсамі, відавочцам якіх пісьменнік быў і якія, безумоўна, не маглі не ўплываць на яго светабачанне (магчымае). І робіцца гэта не ізалявана, а ў кантэксце ўсёй тагачаснай літаратуры, з адначасовым выхадам і за межы літаратуры беларускай. Разам з тым даследчык неаднойчы нагадвае, што станаўленне Я. Коласа як мастака (гэта тычыцца ў аднолькавай ступені і многіх з тых, хто жыў і працаваў поруч з ім) адбывалася б куды больш плённа і паскорана, калі б самі абставіны болей спрыялі гэтаму, а над літаратурай не вісеў дамоклаў меч сталінізму.

Я. Колас, як і некаторыя іншыя пісьменнікі, у гэты час пераходзіў, па меры магчымасці, ад рэалістычнага да алегарычнага пісьма. І. Чыгрын адпаведна вызначае тры аспекты ў творчасці класіка, ведучы гаворку ў трох раздзелах — «У жанры рэалістычнага апавядання», «На ўзроўні алегорыі» і «Прастора раманнай формы і трылогія «На ростанях». Але менавіта алегарычныя моманты ў прозе Я. Коласа найменш даследаваны, вывучаны, хоць тыя ж «Казкі жыцця» сам пясняр ставіў побач з паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка» і выказваў занепакоенасць, чаму іх «крытыка абыходзіць глухім маўчаннем». Даследчык і адводзіць гэтак шмат месца «Казкам жыцця», алегарычнасць якіх набывае новы сэнс, калі суаднесці іх з працэсамі сучаснасці, калі шчыра сказаць, што Я. Коласа ў асобных творах трывожыла становішча, у якім апынулася нацыянальная мова, культура, літаратура, а, значыць, і народ.

І. Чыгрын піша з павагай да аб'екта даследавання, з разуменнем, хто быў, ёсць і кім заўсёды будзе для нашай літаратуры Я. Колас. Але адначасова ён піша і з павагай да самога факта літаратуры, дэманструе ўменне кіравацца высокімі крытэрыямі, не зважаючы на тое, пра каго ідзе гаворка. Характэрны тут развагі пра раманную форму ў творчасці Я. Коласа. Даследчык пераканабыў: «трылогія («На ростанях».—**А. М.**)— адна з цікавейшых вяршынь у творчых пошуках Коласа-празаіка, твор канкрэтнай індывідуальнасці», але ў той жа час ён не можа не сказаць і іншае: «Прастора раманнай формы ў творчай спадчыне Якуба Коласа яшчэ не стала натуральнай патрэбай беларускай прозы як мастацтва слова. Да рамана Якуб Колас толькі ішоў».

Гэта добра, што ўсе мы, літаратуразнаўчая навука прынамсі, пераадольваем інертнасць у меркаваннях, якая была яшчэ нядаўна, калі існавала як бы нябачная схема, згодна якой вызначалася, што і як гаварыць, пісаць, каму і якія ацэнкі даваць. Праўда, са старым развітацца не так і проста. Вось і ў І. Чыгрына сустракаем на поўным сур'ёзе сцвярджэнне: «Гаворачы пра адрозненне дакастрычніцкіх апавяданняў ад пасля-кастрычніцкіх, не трэба забываць таксама, што Колас як празаік да рэвалюцыі сцвярджаў сябе ў рэчышчы крытычнага рэалізму, а пасля — у рэчышчы сацыялістычнага рэалізму». Быццам Я. Коласу не заставалася нічога іншага, як разбірацца ў адрозненнях «крытычнага рэалізму» і «рэалізму сацыялістычнага».

Але гэта ўжо — «драбязі». Права на ўласны погляд аўтар аргументаваў пераканаўчасцю развагі ацэнак.

**А. М.**

**Алег ЛОЙКА**



## Зорнае неба на куццю...

Зорнае неба на куццю —
Светлае і ўрачыстае —
Як незгасальны гімн жыццю,
Як сага.эпічна вячыстая.

Зор, як тэм у жыцці і праблем,
Кожная — цяжкай ношаю...
Дзе ж, каторая ў Віфлеем?..
Чаму не самая большая?..

Дзе, што свеціць майму жыццю,
Дзе — Беларусі роднае?..
Зорнае неба на куццю,
Знічкі — аніводнае!

Неабсяжны зорны хаўрус,
Сцежкамі не раздарожаны...
Я — не Хрыстос, я — беларус,
Ці ж для крыжа народжаны?

Ды ўваскрашацца век жыццю,—
Няхай жыве эдэмава!..
Зоркі не падаюць на куццю:
Не згіне Віфлеемава.

Бы раі ў лугах, гаях,
Бы выраі белыя, гусевы,—
З куццёю будзь, зорачка мая,
А найперш — Беларусева!..

Зорнае неба на куццю —
Светлае і ўрачыстае —
Як незгасальны гімн жыццю,
Як сага эпічна вячыстая.

●

Затоенага, як паветра,
Ніхто не бачыў й не відно...
Маўчым, затоенага мэтры,
Маўчым, бы лёгшы зноў на дно;

Маўчым, асілкі несвабоды,
Свабодзе новай чужакі:
Нам, Штырліцам і Валянродам,
Не падаюць рук юнакі;

Маўчым, нібыта самазванцы,
Ці — больш таго — праступны люд,
Які спустошыў душаў ранцы
На ўслужніцтве ў ярэмчых пут.

«Што, Штырліцы?!. Што, Валянроды?!.
Дарма шукаеце брады!..
Свае сваіх вы для народа
Былі чужынцамі заўжды!

Прысуд адзіны, канчатковы!..
І не крыві ва ўсмешцы рот!..»
Балючыя глынаю словы,
Нядошлы Штырліц й Валянрод.

## Прывілеі

Дзе паўстаюць прывілеі,
Буяюць аж прывілеі?..
Там, дзе буйнейшы буйнее,
Малы, як малеў, малее.

Дзе ўшыр і ўдоўж прывілеі,
Бы хвошч, караняцца ў глеі?..
Там, дзе камусь маўзалеі,
А іншы без дошкі тлее.

Камусь — «Чайкі» чорным рэем,
А іншы ў трамваі карэе;
Камусь — ногі ў чэргах млеюць,
А іншым — на стол пруць лакеі,

Камусь бракне нават алею,
А іншы з ікры шалее,
Крацее, свінее, быдлее,
Як і ланцуг прывілеі!..

І не сашчапіць душ, не склеіць,
Дзе правяць баль прывілеі
І сэрца ад болю млее,

---

*Іван Капыловіч*



# Здрок

**Апавяданне**

ЗДРОК пачаў глухнуць пасля таго, як прабыў у карцэры болей месяца, куды трапіў за гульню ў карты. Ён прайграўся, мусіў выдраць залатыя зубы, бо грошай у яго не было: тут, у зоне, вялікія сумы мала ў каго вадзіліся. Хіба сотня ці дзве самае вялікае, якую праўдамі і няпраўдамі ўмудраліся праносіць родзічы, калі давалі тым, хто трапіў сюды кароткія або доўгія, не на адны суткі, спатканні. Як ні абшуквалі іх,— распраналі, абмацвалі самае малое шытво,— але тую адну-адзіную «кладовачку», патаемнае месца, дзе былі схаваны дзве «зялёненькія», ахоўнікам выявіць амаль ніколі не ўдавалася. Вядома, што ахоўнікі — розны народ. Хто на гэтай рабоце зубы з'еў, ведалі: як ні старайся, але перахітрыць сваіх падапечных — справа безнадзейная. Сярод тых, каго асудзілі, ёсць людзі з такой яснай і светлай галавой, што застаецца адно здзіўляцца: няўжо яны не разумеюць — з іхнімі талентамі, здольнасцямі бавіць свае лепшыя гады трэба не ў зоне, а рабіць нешта добрае, што ўзвысіла б іх, зрабіла сапраўднымі людзьмі. Але замест гэтага адны з іх — беспрасветныя зладзюгі, другія — махінатары, трэція могуць падрабіць дзесятку ці дваццацьпятку так, што не адрозніш: ці фальшывая, ці дзяржаўная.

У Здрока — залатыя рукі. Ён — токар, слесар, наладчык... Якую работу па металу ні дай — выканае так, што толькі языком прыцмокнеш. Тут, у зоне, ён штодня дае па два-тры планы. Каб гэтак ён укалваў на волі, то атрымліваў бы па семсот-васемсот рублёў у месяц. У зоне расцэнкі не тыя, што на волі. Вядома, і тут плацяць, але столькі,каб хапіла разлічыцца за харч, за «абмундзіраванне», за тое, што ахоўваюць, трымаюць гасцініцу для наведвальнікаў (кожнаму з асуджаных раз у паўгода даецца доўгае ці кароткае спатканне з родзічамі, жонкамі).

І характарам Здрок — чалавек чалавекам. Мяккі, памяркоўны, ніколі ні з кім не задзіраецца, нікога не пакрыўдзіць, не адбярэ пайку ў слабейшага, каб уволю нашлуніцца самому. Наадварот, калі маці прышле пасылку, усё расчыніць і раздасць суседзям па нарах: хіба яны не людзі? Такія ж гаротнікі, як і ён.

А хіба ў яго галавы няма? Ужо тут, у зоне, ён скончыў сярэднюю школу. У атэстаце адны пяцёркі, але медаля Здроку не далі — каб жа на волі так вучыўся, а то... Пасля чарговай адсідкі Здрок паступаў у радыётэхнічны інстытут. І паступіў. І вучыўся на вячэрнім аддзяленні. Да таго часу вучыўся, пакуль не ўлез ноччу ў аддзел кадраў ды не выкраў паўмеха чыстых бланкаў працоўных кніжак з круглай пячаткай. Адразу яго не злавілі, і ён, напэўна, уявіў ужо, што няўлоўны. Праз нейкі час абрабаваў магазін. З некалькімі тысячамі паляцеў самалётам у Сочы, дзе на беразе мора знаёміўся з дзяўчатамі, раскідваўся грашыма направа-налева. Нікому з дзяўчат, мабыць, і ў голаў не прыйшло, што грошы не зробленыя, бо Здрок хваліўся, быццам толькі што з Цюменскага краю, дзе здабываў чорнае золата, а там заробкі — ого якія! Але гаспадыня, у якой кватараваў, неяк прыбірала ў яго пакоі, папраўляла ложак і пад падушкай убачыла кругленькую пячатку, некалькі чыстых бланкаў працоўных кніжак. Яна за іх — і да ўчастковага... З Сочы Здрока суправаджалі два міліцыянеры. Наручнікі яму ніхто не надзяваў, усю дарогу Здрок з міліцыянерамі баляваў у вагоне-рэстаране, і ўцячы з-пад варты нават не спрабаваў: навошта? За пячатку з бланкамі болей года яму не свяціла. Але суддзя ўляпіў усе чатыры, не паверыў Здроку, што некалькі тысяч, што былі пры падсудным, чэсныя грошы. І куды толькі ні пісаў Здрок касацыйныя скаргі, якіх толькі адвакатаў ні наймаў, а сядзець давялося столькі, колькі адвёў суд...

У лагерную сталоўку Здрок хоць і хадзіў, але пустую баланду, якую даюць там, не сёрбаў, бо даўно ад такіх харчоў выцягнуў бы ногі. У зоне ён не першы раз, і ўсе тамтэйшыя хады-выхады добра ведаў. Абы грошы. За сотню любы вольнанаёмны, а іх у зоне хапае, гатовы аказаць паслугу. Прынясуць якога хочаш харчу, курыва і нават пітва. Словам, прывык Здрок да зоны, як да свайго роднага дома. Усё яму тут вядомае, знаёмае — жыць можна. Толькі хіба калі захварэе, то да добрых лекараў не трапіць. А здароўя з кожнай чарговай адсідкай не прыбаўляецца. Ціск часцяком падымаецца такі, што кроў ідзе з носа. І есці абы-што ён не можа: блага яму ад кепскіх харчоў. Як яно не будзе блага, калі нож усадзілі ў жывот. Тады, калі прайграўся ў карты, сябрукі-карцёжнікі, пэўна, прырэзалі б, каб не прапаршчык... Падлаталі яго трохі ў турэмнай бальніцы, зашылі дзірку ў жываце і сказалі, што не грэх было б паехаць у Пяцігорск ці Мінеральныя Воды — на тамашніх курортах страўнікі лечаць добра. Але хто гэта бачыў, каб з зоны выпраўлялі каго на курорт?

З бальніцы Здрок пабаяўся адразу ў свой атрад, ведаў: сябрукі-карцёжнікі чакаюць ад яго прайграныя грошы. А дзе ён іх возьме? Што было — даўно патраціў то на харч, то на залатыя зубы. Ужо тут, у зоне, ён паставіў залатыя каронкі на пярэднія зубы, і калі раскрываў рот, то нібы ясны месячык свяціў...

— Пасадзіце мяне ў карцэр,— папрасіўся ён па прыбыцці з бальніцы ў зону атраднага камандзіра, маладога капітана, якога прыслалі да іх нядаўна.

Капітан — чалавек строгі, але і добры,шкадаваў тых, хто па сваёй ці не па сваёй волі трапіў у зону, і надта гайкі не зацiскаў, для яго галоўнае, каб быў план, каб асуджаныя не хварэлі, каб ні ў кога ніякіх даўгоў, заўваг па паводзінах. Здрок не меў даўгоў, і ніякага чэпэ за ім не значылася. Хіба што заядлы карцёжнік... Пасля бальніцы яму б даць добры стол, каб папраўіўся, а то белы, як мука. Але зона — не курорт, тут усё строга, як вызначыў суд... Ды ладна зона, тут хоць і не мёд, а ўсё ж можна выйсці з барака на паветра, падыхаць, пахадзіць. Дый на харч можна разжыцца. Капітан гэта ведаў, ён шмат што ведае, хоць тут і нядаўна, але робіць выгляд, быццам нічога не заўважае, бо шкадуе іх, такіх дурняў, як Здрок. А ў карцэры? Ні цяпла, ні святла. На ўвесь дзень кавалак хлеба з вадой.

— Ты мне скажы, хто цябе садануў нажом,— настойваў капітан,— я яму не дарую.

Здрок засмяяўся і схапіўся рукой за жывот: рана яшчэ як след не загаілася, і нават засмяяцца нельга.

— Каб я першы раз, таварыш капітан, быў за гэтымі варотамі,— кінуў Здрок у той бок, дзе на ўездзе ў зону на вышцы стаяў вартавы з аўтаматам.— Я хачу выйсці жывы адсюль. У мяне старэнькая маці, я абяцаў ёй стаць чалавекам.

— Абяцаў... А чаго тады ў карты садзішся гуляць? Хіба не ведаеш, з кім садзішся? Глядзі, Здрок, табе лепш відаць, але я на тваім месцы не маўчаў бы... Думаеш, карцэр выратуе? Усё адно праз месяц выйдзеш, а потым? Цяпер твае сябрукі цябе ў спакоі не пакінуць.

Капітан быццам выбіваў апошнюю надзею, бо за карцэр Здрок чапляўся, як тапелец за саломінку. Ён нават баяўся дапусціць у думках, што зноў давядзецца вярнуцца ў атрад. Тады паляціць яго галава, а жыць ой як хочацца. Што добрае пабачыў Здрок за свае дваццаць шэсць гадочкаў? Ды анічога, апроч зоны.

Перш чым папасці ў карцэр, адпрасіўся ў капітана быццам дзеля таго, каб завярнуць у медпункт ды перавязаць рану. Але не столькі яму трэба было адно, як другое: каб трапіць да зубнога тэхніка ды залатыя каронкі выдраць.

Зубны тэхнік, што ставіў яму гэтыя ж самыя каронкі колькі месяцаў назад, дазнаўшыся, чаго заглянуў да яго Здрок, адно пакруціў галавою:

— Ой, хлопча, ой, бядовая твая галава. Не хочаш ты памерці сваёй смерцю. Не, не хочаш. Бо каб інакш, дык у той бок, дзе карцёжнікі, і не глядзеў бы. Які з цябе карцёжнік? Дурань ты набіты, ось што. Думаеш, што ў цябе макацёр добра варыць, дык і ўсё? Не, браточак, тут круцялём трэба быць, а з цябе круцель, як з мяне таўкач.

Зубны тэхнік, як і Здрок, асуджаны на такі ж самы тэрмін. Спаймалі яго абэхээсаўцы, што трохі недаставала залатога пылку, які ён напыляў у дзяржаўнай паліклініцы на зубныя пратэзы. Пасадзілі з канфіскацыяй. Але ён не Здрок, не ўкалваў на такарным ці фрэзерным станку, не калаціўся на холадзе і марозе зімой у час лесапавалу, нарыхтоўкі драўніны для лесацэху, што тут жа, у зоне. Зубны тэхнік займаўся, як і да пазбаўлення волі, сваёй ранейшай справай. Праўда, ён цяпер рабіў жалезныя зубы, але і залатыя каму-нікаму ўстаўляў. Не задарма, вядома.

Здрок хацеў сказануць такое, каб зубны тэхнік не ўказваў яму. Указчык знайшоўся! Але сціснуў зубы і прамаўчаў, паглядзеў у той бок, дзе бормашына, і адчуў сябе так, быццам па ўсім целе мурашы папаўзлі. Яшчэ калі ставіў залатыя каронкі, і зубны тэхнік падганяў іх, падпілоўваў гэтай жудаснай машынай то адзін зуб, то другі, то ён ледзь не самлеў, але ўсё ж неяк вытрываў і даў сабе слова, што хутчэй памрэ, чым калі-небудзь згодзіцца лячыць або ўстаўляць зубы. Але тут такая нявыкрутка: не задобрыць ён карцёжнікаў — без галавы застацца можа. Тут парадкі такія...

— Чаго стаіш, як укопаны? — павысіў голас зубны тэхнік.— Сядай, раскрывай хлебарэзку, перш-наперш трэба цэмент счысціць, інакш каронкі не зняць.

— Зараз я, зараз,— Здрок дрыжыць, нехаця, цераз не магу, наближаецца да бор-машыны, сядае ў крэсла і просіць: — Ты, Міша, асцярожней, баюся я... Калі ты ўключыш гэтую д'ябальскую круцёлку, то ў мяне сэрца спыняецца.

— Дома ў цябе, апроч маці, ёсць яшчэ хто? Ну, там браты, сёстры? — лагодна, каб Здрок трохі размагніціўся, пытаецца зубны тэхнік.

— Адзін я ў яе.

— І я ў маці адзін. Байструк я. Але я не ты, я сваю маці шкадую,— зубны тэхнік ужо ўключыў бор-машыну, акуратна, каб не пашкодзіць дзясну, счышчаў цэмент, амаль не балюча, ад сэрца ў Здрока адлягло, ён слухаў тое, што расказваў зубны тэхнік, і яго голас здаваўся ласкавым, заспакойваючым,— я сваёй маці нават адсюль пасылаю грошы. Яна за мною, як за каменнай сцяною.

Зубны тэхнік выключыў машыну, скамандаваў:

— Сплюнь, бо нічога не відаць, паласну па дзясне, то воўкам завыеш.

І мара-надзея галее,
Лязом аж нянавісць залее
Ля сквапных шый прывілеяў!..

●

О сцяг, як макаў цвет усходаў,
Суніц, шыпшынь:, снегіроў,
Красы нязгаснае народа —
Купальскіх — уначы — кастроў;

О сцяг, як крык душы, як радасць,
Світанкавы да сонца кліч,
Што ўзняўся з грозных барыкадаў,
Паперадзе якіх — Ільіч,—

Што ж сталася з табой, са мною?..
Ні Берыя і не Яжоў,
Як, як мне жыць ілжой-маною
Між імі сплоджаных крыжоў?!

Сцяг?! Крыж?! Крыві гудлівай сага!..
Уцёк бы, але — ці ўцяку?..
Сплывае кроў па дрэўку сцяга,
Сплывае й на маю руку.

Нібы саўдзельнік, сам — злачынец,
Усё азіраюся наўкруг,
І белы свет нібы зачынен.
Пакуль не змытая кроў з рук.

І хоць не здраднік, сцяг кідаю,—
Гулагаў, а не сэрца сцяг,
Бо быць крывавым не жадаю,
Бо не крывавы іх працяг.

О сцяг, пакайся! О, агорвай
Бяду, як чорны ўчынак твой,—
Я перайму цябе над прорвай,
Зноў уздыму над галавой;

Пакайся, пракляні, закрэслі
Плюгавых зграю, каб ізноў
У колеры тваім ускрэслі
Свабода, праведнасць, любоў.

А покуль ты таго не ўчыніш,
Дык не пытай, чаго, чаму
Па-над сабой, па-над Айчынай
Цябе я больш не падыму!..

## Роднае слова

Роднае слова
Вусны прыгожыць,
Мудрыць галовы,
Розумы множыць.

А без яго ты —
Чорнае нёба,
Батый ці готы
З сэрцам-амёбай!..

О, дух варожы,
Кінь свае ловы,—
Вусны прыгожыць
Роднае слова!..

## На Слонімскім вакзале

Віктару СКРОБАТУ

На Слонімскім вакзале
Гудзелі цягнікі:
У свет нас праважалі
Бацькі і не бацькі.

І радасцю і жалем
З бліскучых пліт палог
Вышэў, нібы скрыжалі,
Нізеў, нібы парог.

Слязу ўцiралі маці
З нявыспаных вачэй,
З рук бацькі сідар хваціш —
Цяжкі, ды з ім — лягчэй;

І на любым паўстанку,
На станцыі любой
Лягчэй,калі ў світанку
І ўвечары друг з табой;

Лягчэй, калі хусцінкай,
Што ў свеце ўсіх мілей,
Махне табе дзяўчынка
З-за матчыных плячэй

На Слонімскім вакзале,
Адкуль, нібы ў вякі,
У свет нас праважалі
Бацькі і не бацькі.

Здрок сплюнуў, не сцярпеў, сказаў:
— Добра табе хваліцца... Каб жа ў мяне твая прафесія. Я вунь укалваю, як чорт смалены, ад работы рукі ўночы ныюць, спаць не даюць, а што я зарабляю? На баланду ледзь хапае.

— Не прыкідвайся. На баланду... Ад баланды даўно ногі працягнуў бы. Прападзеш ты без роднай матухны. Гэта яна табе на зубы дала?

Здрок згодна кіўнуў галавою, і зубны тэхнік працягваў:

— Любіць яна цябе, дурня неачэсанага, спадзяецца, што хоць на старасці ты ёй вады падасі. А ты? Эх, ты, даўбешка! Давай раскрывай хлебарэзку, яшчэ трошкі — і ўсё...

Каронка нагадвала падкоўку. Здрок зацiснуў яе ў руцэ, і без аглядкі да барака, да карцёжнікаў. Нёс — і сэрца яго аблівалася крывёю: яго саданулі нажом, а ён ім золата? Няўжо ён сам сябе не паважае, гатовы перад нейкімі пачварамі поўзаць на каленях? І хто, хто гэта давёў яго да бальніцы? Няўжо той з крыжамі, «крыжаносец» чортаў? Было цёмна, ноч была, калі Здрок ішоў па зоне і пачуў ззаду нечыя крокі, не паспеў нават азірнуцца... У бальніцы ён ачнуўся... І цяпер ён ім вось гэты кавалак золата? Сам вінаваты: зубны тэхнік праўду кажа — з кім ён звязаўся? «Крыжаносцу», мабыць, што чалавека забіць, што муху... І што цяпер Здрок скажа маці? Яна калі ўбачыць, што ў яго ўжо няма залатых зубоў, то абавязкова спытае, куды падзеліся...

У бараку заспеў аднаго «крыжаносца». Той палежваў на нарах, курыў. І як толькі агледзеў яго Здрок, то гатовы быў накінуцца на яго, зваліць з нараў, біць, душыць... Але ён стрымаў сябе, не стаў задаваць лішніх пытанняў, працягнуў яму каронку-падкоўку, вымавіў праз зубы:

— Вазьмі, падавіся, калі ты такі.

— Які такі? — «крыжаносец» узяў каронку, паважыў, нядобра паглядзеў на Здрока. На ім — матроская цяльняшка, на прадплеччы выпечаны гарачым дротам крыж. Такія ж самыя крыжы, не раз бачыў Здрок, выпечаны ў яго і на абодвух сцёгнах.

— Чаго ты? Раз вінен...— Здрока ўзяла крыўда, што «крыжаносец» нават не пацікавіўся, як ён сябе адчувае пасля бальніцы, як яму ўдалося выжыць пасля таго, як саданух нажом, пэўна ж, сам той ноччу.— Хіба я калі падводзіў? — ён ужо і не рады быў, што сеў з ім гуляць у карты, але нячысцік спакусіў яго, спадзяваўся, што выйграе. не будзе прасіць, каб маці, збіраючыся да яго на спатканне, у патаемнае месца зашыла некалькі зялёненькіх... Карту пацягнуў фартовую, і ўжо ніколечкі не сумняваўся, што ўдача пайшла ў руку, і стукнуў на ўсё, што ў «банку»... Але «крыжаносец» не ён, вякуе ў зоне, ён не такіх, як Здрок, аблапошваў...

— Дзе хочаш вазьмі, але каб праз два дні яшчэ зялёненькая была, інакш...— спакойна сказаў «крыжаносец», і Здрок зразумеў, што ён ніколечкі не жартуе, сваё слова стрымае.

Выйшаў з барака — і да кіёска, што пасярэдзіне зоны, каля вытворчых карпусоў. У кіёску адпускалі тавару для кожнага, хто ў зоне, не болей як на дзесяць рублёў у месяц. Вольнанаёмная прадаўшчыца — высокая, з пульхным тварам, агледзеўшы яго, дастала спіс, прамовіла:

— Прыходзь у наступным месяцы, у гэтым свой ліміт выбраў.

Не паспеў адысці ад кіёска, а тут адкуль ні вазьміся — і атрадны. Згледзеў яго, спытаў:

— Чаго швэндаешся? Канец месяца, трэба бабкі падбіваць, а ты як непрыкаяны.

— Пасадзіце мяне, таварыш капітан, у карцэр, бо калі не пасадзіце... Чорт ведае, што тады са мной будзе, —у Здрока на вачах закруціліся слёзы, голас у яго задрыжэў,—выйду— як пракляты рабіць буду, пагашу ўсе свае даўгі.

Капітан убачыў, што золата ў яго роце больш няма, пра ўсё, пэўна, здагадаўся, сурова спытаў:

— Карцёжнікам выдраў каронкі? Ну, Здрок, ну, бядовая твая галава... Ды калі б ты і не хацеў, то цяпер я туды мушу цябе запраторыць. Развялі анархію...

Здрок сядзеў ужо другі тыдзень і не бачыў ніякага выйсця: дзе ўзяць неабходную суму. Вымольваць у маці? Адкуль у яе быць такім грашам? А «крыжаносец» чакае, яму цяпер, мабыць, ужо і не грошы, а яго галава патрэбна... Давядзецца прасіцца, каб у іншы лагер перавялі, бо тут ужо яму няма месца.

Неяк яго вывелі ў прыбіральню. Там яго і падкараўуліў «крыжаносец». Здрок толькі і помніць, як ён дастаў з кішэні кастэт, надзеў яго на руку, зашыпеў гадзюкай: «Спадзяваўся, што карцэр выратуе? Я ж казаў: пад зямлёю дастану...»

«Крыжаносец» узмахнуў рукой, і Здрок адчуў востры боль у галаве, зямля быццам паплыла, усё ў вачах закружылася, свет перавярнуўся... Зноў ачомаўся ў бальніцы. Каля яго сядзеў чалавек у цывільным, і паўз верх касцюма на ім белы халат.

— Ты можаш гаварыць? — спытаў чалавек у цывільным.— Я — пракурор, я павінен ведаць, хто гэта цябе так?

Здрок аблізнуў сухія вусны, папрасіў піць, але медсястра, што была тут жа ў палаце, папярэдзіла: піць яму зараз нельга, хіба толькі можна змачыць мокрым ручніком вусны. Ён змачыў, стала быццам чуць-чуць лягчэй, але тут жа ўявілася зона,карцэр, «крыжаносец», згадалася маці, і слёзы засланілі яму белы свет.

Пракурор пачаў яго суцяшаць:

— Цяпер, Здрок, баяцца няма чаго — доктар сказаў, што жыць будзеш, але ўдар у галаву такі... Таго, хто зрабіў гэта, мы павінны судзіць. Толькі назаві яго.

Здрок адвярнуўся ад пракурора і маўчаў, баяўся вымавіць хоць бы адно слова, бо ведаў: «крыжаносец» — страшны чалавек, ён не спыніцца ні перад чым... А Здрок абяцаў маці адбыць тэрмін, вярнуцца дадому, стаць чалавекам.

— Грамадзянін пракурор! — голас у яго дрыжыць, збіваецца.— Дапамажыце мне. Перавядзіце з гэтай зоны ў іншую. Тут мне месца цяпер не будзе.

— Я азнаёміўся, Здрок, з тваёй судовай справай, і яшчэ не ўбачыў цябе, але мне ўяўлялася, што ты ўсё-такі чалавек. Проста няўцям: як ты трапіў у гэтае балота? Тым больш, што садзішся з мацёрымі злачынцамі гуляць у карты... Добра, я пастараюся дапамагчы. Але ж і ты павінен мяне зразумець: не магу я пакідаць так вось усё, што зрабілі з табою.

Давялося паспавядацца перад пракурорам, і апынуўся Здрок далёка ад родных мясцін. Аж у Комі затарабанілі яго. Кругом непраходныя лясы, балоты, хмары камароў, на сотні, а мо і на тысячы кіламетраў ніводнага пасёлка, ніводнай жывой душы. Паспрабуй уцячы — камары жыўцом з'ядуць, з голаду ногі выцягнеш. Але Здрок пра ўцёкі і не думаў. Ён удзячны быў пракурору, што выратаваў яго, лічы, дараваў жыццё.

У Комі Здрок, як і ў ранейшай зоне, рабіў на такарных, на фрэзерных станках. Тачыў нейкія дэталі. Стараўся — за дзень выганяў па два, а то і па тры планы, бо ўвялі зачоты, і дзень мог сысці за два, за тры. Здрок павесялеў: да таго дня, калі ён пакіне зону, заставалася мала. Пра тое ён і пісаў дадому. Маці ёсць маці, яна дужа перажывала, што яго загналі на край свету. што не магла адведаць яго, прывезці перадачу. І пыталася: за што, чаму? Ён утойваў праўду, пісаў, што пакуль ён — казённы чалавек, то распараджацца сабою не можа.

Нарэшце, думаў Здрок, усё пачало складвацца ўдала. Праўда, пасля карцэра і бальніцы ён пачаў глухнуць, неяк быў падскочыў крывяны ціск. А мо гэта ад удару кастэтам?

Іншы раз атрадны камандзір прасіў Здрока, каб ён дапамог тым, хто на лесапавале. Не зайздросціў ім Здрок. Ён усё ж у цэху зімой і летам, не мерзне на сабачым холадзе, яго не жаруць камары — жыві не памірай.

Неяк на лесапавале з ім быў побач сусед па нарах: немаладога веку шафёр, які трапіў у зону за тое, што сеў за руль нецвярозы, наехаў на чалавека. Да шафёра Здрок даўно прыглядваецца і бачыць: не можа ён зміры цца з тым, што аказаўся тут... «Не ўмеем мы жыць, — у час перакуру кажа Здроку шафёр,— у мяне добрая сям'я, дарослыя дочкі, унукі і ўнучкі ёсць, а, я, замест таго, каб дбаць пра іх, да чаркі прыкладваўся. Што добрага ў чарцы? Ды анічога. Але ж мы, ледзь дзе якая кампанія, лепшага выдумаць не можам, апроч гэтага д'ябальскага пойла. Колькі сем'яў з-за яго парушылася, колькі во тут у зоне з-за яго».— «Выйдзеце на волю — больш піць не будзеце?» — пытае Здрок.— «Хто яго ведае,— мабыць, аб гэтым ён не думаў, такое пытанне для яго нечаканае.— Але ж вось тут мы людзі людзьмі, абыходзімся без пойла, а дома не можам. Што гэта? Дурная звычка? А хто, давядзі ты мне, адвучваў нас ад яе? Дзяржава сама спойвае чалавека так, што далей няма куды»...

Ці з лесапавалу, ці з цэха, дзе Здрок тачыў невядома для чаго нейкія загатоўкі, ішоў у сталоўку. Павconfigurations рыха, вольнанаёмная, такіх жа гадоў, як і ён, кідала яму ў жалезную міску з баландой ладны кавалак мяса. З паварыхай Здрок даўно ў змове, гэтыя незаконныя кавалкі мяса добра аплачаны, і каб не дэпэ, то хіба ён даваў бы па тры планы?

— Пабачымся сёння? — шэптам спытаў паварыху Здрок.

Яна згодна міргнула вачыма: ага, вось толькі пакармлю вас і памыю посуд.

У яе ў зоне баковачка, дзе яна часцяком начуе, і Здрок, ледзь толькі сцямнее, пакідае барак, быццам яму прыспічыла ў прыбіральню ці пакурыць. А сам у паварыхі...

— Загрубела я,— яна падала яму на стол тое-сёе з харчу: кавалак смажанай рыбы, свежы батон, чай.

Яна села на ложак, што каля стала, пазірала, як ён прагна ўмінаў рыбу, батон з маслам, запіваў чаем, і ёй здавалася, што колькі яму ні падай — умеле ўсё да апошняй крошкі і яшчэ папросіць. І ўсё адно худы, жоўты, нямоглы. Пэўна, у ім сядзіць нейкая хвароба. А што ж — саданулі ў чэрава нажом, а потым кастэтам па галаве, бясследна яму гэта не мінулася. Вунь стаў глухі, як пянёк.

Ён есць і не зводзіць з яе вачэй, сочыць за яе вуснамі, каб разабраць, што яна скажа.

— І што думаеш рабіць? — пытаецца ён у яе.

— Буду раджаць,— яна, пэўна, ужо ўсё абдумала без яго, але ёй трэба ведаць, як ён успрыме гэтую вестку.— Не такая я ўжо маладая,— дадае яшчэ яна,— гады бягуць, хай будзе дзіця, мо як-небудзь выгадую.

Яна замоўкла, заціхла, засяродзілася, пэўна, чакала, што ён падтрымае яе, бо і сам ужо не юнак, і яму пара мець жонку дзяцей.

— Глухі я, лячыцца мне трэба,— ён устае, набліжаецца да яе, садзіцца ўпобачкі на нешырокім ложку, засланым новай капай, спрабуе абняць, прыхінуцца, але яна адвяла яго рукі, адвярнулася: пэўна, яна чакала ад яго іншых слоў, бо ўяўлялася, што ён добры, харошы і нізавошта не пакіне яе. Не кожная прыгалубіць таго, хто ў зоне, а яна не паглядзела.

— Ну чаго ты? Раз ужо вырашыла — раджай. Але цяжка табе будзе, пакуль я тут. Ось хіба калі вызвалюся. Мо да маёй маткі падамося? Хата ў яе вялікая, добрая, месца ўсім хопіць.

Ён спахопліваецца, глядзіць на гадзіннік, што ў яе на стале: невялічкі круглы будзільнік «Электроніка». Хутка адбой, а ён вось яшчэ дзе. Спозніцца, то дзяжурны на ранішнім разводзе даложыць атраднаму — і прапаў яго датэрміновы «дэмбіль», бо парушэнне ўнутранага распарадку ніхто не даруе.

Да бараку ідзе подбегам. Але да таго, як адчыніць дзверы ў свой блок, паспявае падумаць: паварыха, канешне, добрая жанчынка, без яе ён загнуўся б, але ж... Таўставатая яна і не надта каб удалася тварам. Яно і вядома: не кожная згодзіцца пайсці ў зону на работу. А яна пайшла, вось звязалася з ім, на нешта спадзяецца. А ён? Што ён можа даць ёй? Ён і пра сябе як след не мог дасюль паклапаціцца.

У бараку ўсе ў шарэнзе: ідзе вячэрняя праверка.

— Дзе швэндаешся? — грозна пытаецца дзяжурны прапаршчык. — Напрошваешся, каб я рапарт падаў атраднаму. Дагджэшся, мне нядоўга.

Ён вінавата маўчыць, думае, што трэба напісаць маці, каб неяк выслала на каго з вольнанаёмых пасылку і якую сотню грошай ды пазалаціць ручку гэтаму прапару, а то і праўда настрочыць рапарт, тады яго справу аб датэрміновым вызваленні ніхто і не падумае разглядаць.

Ён становіцца ў шарэнгу побач з шафёрам, і той шэптам пытаецца: «У паварыхі быў? Ужо ўсе бачаць і ведаюць, што яна з жыватом... І ад каго ведаюць...» Здрок злосна зыркае на шафёра, нібы хоча спытаць: «А табе што? Усюды табе трэба ўсунуць свой язык».

На душы ў Здрока нядобра: мала таго, што аглух, дык яшчэ і другое... І што яму рабіць, што прыдумаць? Мабыць, сапраўды трэба напісаць маці, каб чакала яго не аднаго...

Праз мінуту-дзве прапаршчык дае адбой. Здрок лезе на верхнія нары, кладзецца, заплюшчвае вочы, але сон не ідзе да яго: ён чуе, як пахропвае на ніжніх нарах шафёр, як той у сне кліча сваю жонку, размаўляе з дочкамі, просіць у іх прабачэння, што падвёў іх, вось дзе апынуўся. І калі Здрок чуе гэта, то паціхеньку, у падушку плача, прыгаворвае: «Мамачка мая родная! Калі ж гэта скончыцца??»

**НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА**

# САЮЗ АБАРОНЫ ЦІ ЗМЕНА ШЫЛЬДЫ?

## З пленума праўлення Музычнага таварыства БССР

**Пра гэтую падзею «ЛіМ» інфармаваў сваіх чытачоў, і яны ўжо ведаюць, што разглядалася надзвычайнае пытанне: «Аб канцэпцыі, тэрмінах і парадку правядзення мерапрыемстваў па стварэнні Саюза музычных дзеячаў Беларусі». Абмяркоўваўся і праект статута будучага саюза. Каля двух дзесяткаў чалавек удзельнічала ў дыскусіі, якая доўжылася амаль тры гадзіны. Так што ў лімаўскай справаздачы мы змаглі скарыстаць толькі фрагменты некаторых выступленняў.**

**М. ДРЫНЕЎСКІ**, старшыня праўлення МТ БССР:

— Усе мы доўгія гады чакалі той дзень, калі будзе ліквідавана несправядлівасць і шматлікі атрад прафесійных музыкантаў зможа стварыць свой творчы саюз. Становішча, пры якім правы прадстаўнікоў самага дэмакратычнага віду мастацтва былі ўшчэмлены, адмоўна адбілася на развіцці музычнай культуры і музычнай асветы. Пазбаўленыя адзінага каардынацыйнага органа, музыканты практычна былі адлучаныя ад удзелу ў выпрацоўцы стратэгічных праграм развіцця музычнай культуры ў рэспубліцы. Да чаго гэта прывяло, мы цяпер ведаем. Цэлыя пласты музычнай культуры аказаліся забытымі, іх даследаванне дэградзіравала. У выніку гэта адбілася на гістарычнай свядомасці грамадства, асабліва моладзі. Прыгнечаныя гэткім стаўленнем да музычнай культуры, адасобленыя паміж сабой, пазбаўленыя стымулаў, многія музыканты зрабіліся абыякавымі да грамадскай дзейнасці, да фарміравання правільных уяўленняў у людзей, у прадстаўнікоў розных структур, у тым ліку дзяржаўных, пра музычнае мастацтва і яго магчымасці. Вобраз музыканта, яго прэстыж у грамадстве зрабіліся неадэкватнымі ягонаму ўкладу ў развіццё грамадства, ягонай сацыяльнай значнасці. Не будзе перабольшваннем сказаць, што ў пройгрышы ад гэтага аказаліся ўсе: дзяржава, грамадства і, канечне, самі музыканты.

Стварэнне ў 87-м годзе Музычнага таварыства распачало аб'яднанне музыкантаў-прафесіяналаў ды аматараў музычнага мастацтва. За мінулыя тры з палавінай гады зроблена нямала. Хачу падкрэсліць, што, выканаўшы свае асноўныя функцыі, павярнуўшы грамадскую думку да патрэб музычнай культуры, стварыўшы матэрыяльна-вытворчы грунт, МТ смела абвяшчае пра гатоўнасць стварыць Саюз музычных дзеячаў Беларусі як свайго правапераемніка. Летась у снежні створаны Саюз музычных дзеячаў СССР, які аб'ядноўвае на добраахвотных асновах рэспубліканскія творчыя саюзы, асацыяцыі, вытворча-творчыя і іншыя суполкі. Характэрная дэталь адрознівае СМД ад усіх творчых саюзаў: музыканты адышлі ад прынцыпаў элітарнасці, здолелі стаць вышэй за чыста свае прафесійныя інтарэсы і ўбачылі праблемы ў комплексе, прызнаўшы мэтазгодным супрацоўніцтва з музыкантамі-аматарамі ў рамках адзінага творчага супольніцтва.

Умацаванне супрацоўніцтва дзеячаў прафесійнага музычнага мастацтва і аматарскіх аб'яднанняў рэспублікі—гэтая канцэпцыя закладзена ў праект статута СМД Беларусі. Аднак памыляецца той, хто лічыць, што межы прафесійнага творчага саюза будуць размыты і ўсе ўроўнены ў сваіх правах. Музыканты - прафесіяналы атрымліваюць права на індывідуальную дзейнасць і абарону вынікаў творчасці, на абарону ад беспрацоўя і на садзейніцтва саюза ў працаўладкаванні, і да т. п. Саюз бярэ на сябе функцыі абароны працоўных, матэрыяльных правоў музыкантаў—сваіх членаў, прадстаўлення іх прававых і сацыяльных інтарэсаў у дзяржаўных, грамадскіх, іншых органах і арганізацыях, плануе ажыццяўляць гастрольна- канцэртную дзейнасць, падтрымліваць эксперыментальныя творчыя праекты і праграмы, спрыяць творчаму росту маладых выканаўцаў, забяспечваць магчымасць навучання і стажыроўкі ў вядучых майстроў айчыннага і замежнага мастацтва і г. д.

Лічым, што рэспубліканскі саюз павінен уваходзіць у склад саюзнага на дагаворнай аснове, захоўваючы пры гэтым сваю поўную самастойнасць у вырашэнні фінансавых ды вытворча-творчых пытанняў, дэлегуючы частку сваіх правоў і функцый цэнтральным органам СМД СССР. У гэтым выпадку СМД Беларусі, гэтаксама як аб'яднанні, асацыяцыі і іншыя падраздзяленні яго структуры, будуць вызваленыя ад дзяржаўных падаткаў, платы дзяржпошлін і да т. п.

**В. СКОРАБАГАТАЎ**, саліст ДАВТа БССР:

**— Нельга ахапіць неабдымнае... Паводле статута ў нас атрымліваецца нейкае звышміністэрства, бо ёсць тут фінансавая дзейнасць, і гаспадарчая дзейнасць, і канцэртная дзейнасць, і прафсаюзная, і дзейнасць па ахове аўтарскіх правоў, і міжнародная... Гэта ж неверагодна многа—і няўжо ўсім гэтым павінен займацца Саюз музычных дзеячаў?!**

**Перш за ўсё трэба падумаць, як выжыць ва ўмовах рынку: вось чым і павінен заняцца саюз. Таму ў яго мае быць нейкая фінансавая база, каб музыканты змаглі проста існаваць. Апроч таго, відаць, трэба ставіць пытанне і пра такую матэрыяльную базу, якая б давала нам магчымасць не проста выжыць, але і развівацца.**

**Нядаўна мы, група музыкантаў, удзельнічалі ў аўтарскім канцэрце І. Лучанка ў Маскоўскім доме вучоных. А назаўтра нам з У. Пузынем давялося яшчэ выступіць і ў беларускім «пастпрэдстве», дзе сабралася суполка імя Ф. Скарыны. Мы расказалі пра сваю дзейнасць. І першыя пытанні, якія нам задалі,—«А дзе можна купіць запісы—пласцінкі з тымі творамі, пра якія вы гаварылі? А дзе можна купіць ноты гэтых твораў? А—школу ігры на інструментах, якія вы паказалі? А дзе можна купіць самі інструменты?» І мы развялі рукамі: у нас нічога няма! Ні выдавецтва, ні студыі грамзапісу. Мы... жабракі! Якія мы дзеячы — мы самадзейнікі... Вось такая інфармацыя да роздуму.**

**Наконт асацыяцый: не разумею, чаму СМД абавязкова павінен мець асацыяцыю харэографаў, эстрадных выканаўцаў, крытыкаў і г. д. Мо людзі самі згрупуюцца ў нейкія асацыяцыі—паводле асабістых схільнасцей, мастацкіх напрамкаў, неабавязкова на аснове «вузкай спецыялізацыі». А саюз, безумоўна, патрэбны. Але функцыі яго не павінны быць расплывістыя, бо замест таго, каб займацца сваёй справай, пачнём падмяняць дзяржаўныя структуры.**

**Я. ВАЙТОВІЧ**, міністр культуры БССР:

— Нам усім трэба падрыхтавацца да надзвычай складанага перыяду: мацней за ўсё ўдарыць рынак па культуры. Прыклады можна вывучаць ужо цяпер: скажам, у Польшчы закрылі палову тэатраў, «зліваюць» сімфанічныя аркестры, закрываюць мастацкія майстэрні... Становішча там надзвычай складанае. Таму стварэнне саюза, які будзе абараняць пэўную катэгорыю дзеячаў культуры, нам неабходна.

Я глыбока перакананы, што трэба прадумаць і ўзаемадзеянне трох саюзаў! СТД, Саюза кампазітараў і СМД. Калі вы не знойдзеце агульную мову, дык будзеце замест таго, каб неяк стымуляваць, — глушыць адно аднаго ў сваёй дзейнасці. І абавязкова трэба кантактаваць з Міністэрствам культуры. Мы ўжо зрабілі многае. Галоўнае—падрыхтаваны і прыняты ў першым чытанні нашым парламентам Закон аб культуры. Прычым у законе прадугледжаны моманты, якія дапамогуць нам выжыць у рыначнай структуры: напрыклад сярэдняя зарплата работніка культуры мае быць не ніжэй за сярэднюю зарплату па рэспубліцы. Калі памятаеце — у нас у сферы культуры зарплата складала 50% ад сярэдняй па рэспубліцы. Цяпер паднялі яе ўдвая, а дзеячам мастацтва на 70—80%. Удвая выраслі датацыі тэатрам.

Калі я пазнаёміўся з праектам статута, мне падалося, што гэта калька са статута СМД СССР. Ён не адаптаваны да нашых, беларускіх умоў. Трэба знайсці аптымальны, жыццяздольны варыянт статута СМД Беларусі. І важна, каб саюз ладзіў канкрэтныя справы, быў саюзам са сваім абліччам, які не толькі абараняе сваіх членаў, а і прапагандуе музыку.

**М. КАЗІНЕЦ**, рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі:

**— Хачу сказаць пра ахову музыканта, асяроддзя музыкантаў. Нашы прафсаюзы—я так лічу—гэта ніякая не сацыяльная ахова на сённяшні дзень. Звярніце ўвагу на той стан, у якім знаходзіцца альма-матэр нашай беларускай музыкі, наша кансерваторыя: ён жа не вытрымлівае ніякай крытыкі! Што сказаць пра БДК, дзе заняткі доўжацца з паловы дзявятай раніцы да паловы адзінаццатай вечара, а прафесару, дацэнту, студэнту няма дзе прытуліцца, каб памеркаваць пра справы, паглядзець рэферат ці канспект; прафесару, які адпрацаваў 4—6 гадзін, няма дзе перавесці дух ды выпіць кубачак чаю. Што казаць пра кансерваторыю, дзе бібліятэка мае 200 тысяч унікальных музычных тамоў, але да іх нельга нават дабрацца, бо ўсё цеснае памяшканне ператворана ў сховішча. БДК не мае свайго маладзёжнага опернага тэатра, нават канцэртнай залы; з васьмі туалетаў, прашу прабачэння, чатыры зрабіліся класамі, у якіх вядзе заняткі прафесура... Пра што гаварыць, як не пра ахову музычнага асяроддзя!**

**Я звяртаюся да дзеячаў мастацтва як да будучых членаў СМД: у любым вашым артыкуле, у любым выступленні гаварыце гэта народу, гаварыце гэта ўраду, людзям, якія павінны клапаціцца пра культуру.**

**У. РАТАБЫЛЬСКІ**, дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі:

— Першы раз прачытаўшы праект статута, я для сябе зрабіў выснову, што ідзе спроба проста змяніць шыльду. А спецыфіка МТ і СМД — розныя. Чаму стварылі Музычнае таварыства? Зыходзілі з таго, што музычнае выканальніцтва страціла аўдыторыю і новае таварыства будзе гэтае асяроддзе музычнаму мастацтву ствараць. А зараз ахоплівае сумненне: ці можна ў новы саюз аб'яднаць усё тое, што прапануецца статутам? Аб'яднаць зусім розныя формы, метады, задачы, функцыі... Саюз патрэбны, гэта бясспрэчна. Толькі, мабыць, калі ёсць СТД, дык мае быць і Саюз канцэртных дзеячаў — для прафесіяналаў, а музычнае таварыства аб'ядноўвала б усіх аматараў музыкі...

**Л. КОЛАС**, салістка ДАВТа БССР:

**— Мне здаецца, цяперашняе МТ магло б існаваць, аб'ядноўваючы нашу самадзейнасць, можа, і эстрадныя калектывы, а вось новы саюз скіраваў бы ўвагу на прафесійных дзеячаў. Мне здаецца, у сённяшняга нашага пакалення з духоўных набыткаў засталася палова. Ці змогуць нашы дзеці перадаць гэта надалей, ці застанецца ад нашага беларускага мастацтва хоць бы чвэрць або каліўца? Справа нават не толькі ў тым, на якой мове будуць гаварыць нашы нашчадкі, а, напэўна, у самім узроўні прафесіяналізму беларускага мастацтва. Бо ўжо сёння загінула значная частка канцэртаў нашых выканаўцаў: няма, як вядома, пасрэдніцкіх арганізацый («Союзконцерт» і да т. п.), дзякуючы якім беларускія артысты маглі ездзіць з сольнымі канцэртамі і прапагандаваць хоць бы па Саюзе, хоць бы невялікую частку беларускай музыкі.**

**Калі станем на сцэне, сустракаемся з гледачом, мы не падлічваем грошы ў кішэні, мы чакаем духоўных стасункаў з людзьмі. Удзячны глядач—наша духоўнае багацце. І нацыя наша багатая не толькі тым, колькі мы дамо станкоў або засыплем у зернесховішча, а, відаць, перад усім—культурай. І калі мы, мяркуючы над стварэннем новага саюза, не скажам шчыра, што наша прафесійнае мастацтва проста гіне і толькі ў нашых руках з'явілася адзіная магчымасць трошкі паправіць справу, улічваючы ўсе эканамічныя складанасці; калі мы сёння не будзем актыўныя, то пэўна праз некалькі год у нас нічога не застанецца...**

**С. САКАЛОЎ**, дырыжор Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча:

— Многае з таго, што зроблена нашым калектывам, гэта праца марная, многае проста забыта. Калектыў зрабіў шмат запісаў для тэлебачання, але аказаліся сцёртымі нават тыя канцэрты, што маглі б зрабіць гонар нашаму мастацтву—напрыклад, праграмы з выдатнымі салістамі-спевакамі Беларусі, Саюза. Кажуць, на БТ няма плёнкі, каб усё захоўваць... За 60 гадоў наш калектыў назапасіў вялізны рэпертуар, створаны беларускімі кампазітарамі, выканаўцамі, дырыжорамі, якога няма ў ніводным аркестры Савецкага Саюза. Дзе ён? За 60 гадоў на Беларусі не выдадзена ніводнай нашай партытуры, многія творы, напісаныя для жыновічаўцаў, існуюць у адзіным экземпляры. Як жа можна гаварыць аб прапагандзе беларускай музычнай творчасці, калі пры наяўнасці такога багатага рэпертуару чытанне партытур у музычных навучальных установах выкладаецца на прыкладзе рускіх твораў, бо ёсць іх ноты?

Галоўнай задачай СМД павінна быць уратаванне нашага мастацтва, ахова творчасці і— садзейнічанне яе актыўнаму выкарыстанню.

**Т. ЯКАЎЛЕВА**, адказны сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення МТ БССР:

**— Музычнае таварыства не проста існуе—яно працуе. Ёсць набыткі, станоўчы вопыт. Не хапала сацыяльнай абароненасці — таго, пра што гаворыцца цяпер, але на вельмі высокім узроўні музычных дзеячаў. Так, не было саюза, не было і абароненасці. І я, як многія, вітаю стварэнне яго. Ды ёсць пытанне. Ініцыятарам пераўтварэнняў, арганізацыі саюза, наладжвання сацыяльнай абароны было МТ, прэзідыум яго праўлення. А як жа зараз быць з тымі людзьмі, з якімі мы вялі агромністую працу, пераконвалі, каб яны пайшлі за намі: што мы ім цяпер скажам?**

**Яны напачатку не верылі ў МТ, бо таварыстваў нарадзілася шмат, яны сябе не апраўдвалі... Мы пераканалі, зацікавілі людзей, многія цяпер ездзяць на курсы павышэння кваліфікацыі для музыкантаў-педагогаў, вяртаюцца ўдзячныя за ініцыятыву МТ... Куды мы падзенем гэтых людзей? Ведаю, што ў Брэсцкай абласной арганізацыі 4 тысячы членаў, у нас каля 1,5 тысячы... Таварыства ўзнікла — таварыства скрэслілі? Як быць? Дык мо не згортваць, не перакрэсліваць зробленае, а працягваць працу, рабіць яе яшчэ больш насычанай?**

**А. ЧОПЧЫЦ**, заслужаны дзеяч культуры БССР, Гродна:

— Зразумелае пытанне: трэба ствараць саюз менавіта прафесійных выканаўцаў. Але вельмі трывожыць лёс МТ: відаць, таварыства, якое аб'ядноўвае вялікае мноства аматараў, удзельнікаў музычнага і харэаграфічнага самадзейнага мастацтва, можна захаваць, а саюз дзеячаў прафесійных, які абараняў бы іх спецыфічныя інтарэсы, адначасова шэфстваваў бы над суполкай самадзейнасці.

А яшчэ варта падумаць, як абараніць настаўнікаў музыкі ў школах: яны сапраўды бяспраўныя ў сістэме Міністэрства народнай адукацыі...

**Т. КУРЫЛА**, намеснік старшыні праўлення МТ БССР:

**— Былі тры асноўныя варыянты стварэння саюза. Першы: стварэнне яго, са сваім статутам, з функцыямі саюза элітарных дзеячаў, унутры цяперашняга МТ. Другі: стварэнне паралельна з МТ саюза, заснавальнікамі якога маглі б быць Міністэрства культуры, МТ ды Саюз кампазітараў. Трэці, прапанаваны для абмеркавання: стварыць СМД на базе Музычнага таварыства, зрабіўшы яго правапераемнікам таварыства. Але гэтае пытанне можа вырашыць толькі з'езд МТ, прызначаны на 29 мая.**

**Вырашыць лёс цяперашняй і новай супольнасцяў — значыць вырашыць лёс і 20 тысяч непрафесіяналаў: удзельнікаў самадзейнасці, юных аматараў музыкі, педагогаў, прапагандыстаў, асветнікаў... Справа сур'ёзная. Але час для роздуму ёсць.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# НАРОД СКАЖА? НАРОД СКАЗАЎ!

(Пачатак на стар. 5).

хочуць развязаць грамадзянскую вайну, хочуць, каб ракой лілася кроў. Хачу сказаць, што ні ў БНФ, ні ў іншых партыях і грамадскіх арганізацыях няма ніводнай адзінкі стралковай зброі. Зброю мае толькі армія, органы ўнутраных спраў, КДБ, якія падпарадкоўваюцца выключна КПСС.

**А. Цялькоўскі:** — Мы жывём у таталітарнай дзяржаве, дзе ўсё вершыць рэпрэсіўны апарат, дзе эканоміка, палітычная ўлада знаходзяцца ў адных руках — руках КПСС. Таталітарызм найперш ігнаруе асобу, як свабоду, асабістае жыццё чалавека.

Вось вы сказалі, Аляксандр Андрэевіч, такую фразу: «Хай народ скажа». Але не на народ вы спадзеяцеся. вы спадзеяцеся на масавую люмпенскую свядомасць. Менавіта на ёй трымаецца, на маю думку, камуністычная ідэалогія, краевугольны камень якой — дзяліць усё пароўну. Да чаго гэта прывяло, мы з вамі добра ведаем. Адным словам, шлях да дэмакратыі — гэта шлях ад камунізму.

**А. Савасценка:** — На пытанне: ці ідзём мы да дэмакратыі, я б адказаў — ідзём, цяжка, хваравіта, але ідзём. Тут неаднойчы ўжо гаварылі пра манаполію КПСС на ўладу. Я з такой пастаноўкай пытання не згодзен. Скажыце, якой яшчэ ўлады не хапала нашай партыі да 1985 года? Яна мела абсалютную ўладу. А, між тым, КПСС абвясціла перабудову, дэмакратызацыю грамадства. Сёння рэальнасцю становіцца шматпартыйнасць. Праўда, новыя партыі і грамадскія арганізацыі пакуль што маламікія. Давайце зыходзіць з рэальнага жыцця: сёння самая вялікая, самая арганізаваная партыя — камуністычная.

За нашым «круглым сталом» некаторыя прамоўцы ўскладалі ўсю віну за развал нашай эканомікі менавіта на КПСС. Але ж, даруйце, з 1987 года партыя не займаецца пытаннямі эканомікі.

**А. Цялькоўскі:** — Цікава гэта чуць. Хіба пытанні ўласнасці, пытанні прыватызацыі той жа зямлі, супраць чаго вы, камуністы, выступаеце, не тычацца эканомікі?

**М. Замскі:** — Тое, што КПСС імкнецца трымаць пад кантролем усе сферы нашай эканомікі, — аксіёма. Апошнім часам мне давялося пабыць у камандзіроўцы ў Навагрудку і Воранаве, сустракацца з тамашнімі сакратарамі райкомаў партыі. У Воранаве другі сакратар РК, відаць, каб уразіць мяне, сыпаў лічбамі надояў, прываг мяса, лаяў гаспадаркі, дзе «мінусуюць з малаком». Я, праўда, спытаў у яго: «Дык вы што, па-ранейшаму кантралюеце кожны крок сялян?» «Мы не кантралюем, — пачуў я ў адказ. — Мы раім».

**В. Тарас:** — Гэта вельмі хітры манеўр — на словах адцурацца ад эканомікі, маўляў, я не я і хата не мая. Дэмакраты вінаватыя? Хіба на іх сумленні мільёны ахвяр голаду на пачатку трыццатых гадоў, у час прымусовай калектывізацыі? Самае страшнае, што КПСС імкнецца зараз вярнуцца да адміністрацыйнай эканомікі, аднавіць дзяржаўныя і гаспадарчыя функцыі КПСС.

**В. Чыкін:** — Не ведаю, што адбываецца ў сельскіх раёнах, але магу з усёй адказнасцю сказаць, што з сакавіка мінулага года, калі быў скасаваны 6 артыкул Канстытуцыі СССР, я, тады сакратар парткома Мінскага гадзіннікавага завода, вытворчымі пытаннямі, у тым ліку і кадравымі, займацца перастаў...

**Л. Баршчэўскі:** — Палітычная і эканамічная ўлада ў краіне знаходзіцца ў адных руках. Так было, так яно і ёсць. Успомніце, як быў абраны Гарбачоў? Хіба ўсенародным галасаваннем? Спачатку ад КПСС — народным дэпутатам, а пасля на З'ездзе народных дэпутатаў СССР — Прэзідэнтам. Цяпер ён у адной асобе сумяшчае і заканадаўчую, і выканаўчую ўлады, бо прэм'ер-міністр Паўлаў у першую чаргу падпарадкоўваецца яму.

**В. Чыкін:** — Якія прэтэнзіі тут могуць быць да камуністаў? Гэта ж ваш прэзідэнт!

**В. Тарас:** — Гэта ж ваш генеральны сакратар!

**В. Чыкін:** —. Я бачу, што ў нашых апанентаў вялікая блытаніна ў галовах. Вы выступаеце за прыватызацыю зямлі, не разумеючы, што за змену форм уласнасці трэба плаціць дарагой цаной. Успомніце гісторыю, пачынаючы ад таго ж Кромвеля ў Англіі, урокі Вялікай Французскай рэвалюцыі і Кастрычніка — колькі пралілося крыві. Вы прапануеце новы выбар, вяртанне да капіталізму — зноў грамадзянская вайна?

**В. Акулаў:** — Дайце магчымасць грамадству развівацца самому, не гвалтуйце яго волю...

**В. Чыкін:** — Я вам нагадаў гістарычныя факты — як толькі мяняюцца формы ўласнасці, пачынаецца грамадзянская вайна.

**В. Тарас:** — Грамадзянская вайна — гэта вайна класаў. Якія класы ў нас будуць ваяваць паміж сабой?

**В. Чыкін:** — Я магу назваць вам хоць бы тры класы. Гэта чыноўніцтва, якое налічвае па краіне, па некаторых дадзеных, 18 мільёнаў чалавек і якое з ліквідацыяй адміністрацыйна-каманднай сістэмы згубіла свой палітычны і эканамічны ўплыў. Другі клас — крымінальная буржуазія, якая нарабавала за гады застою і перабудовы велізарныя багацці. Ну і ёсць клас працаўнікоў, якія жывуць толькі на зарплату.

**В. Тарас:** — У час грамадзянскай вайны, якой вы нас так палохаеце, на чыім баку будуць змагацца працоўныя?

**В. Чыкін:** — Як і на кожнай грамадзянскай вайне, яны будуць змагацца па абодва бакі, забіваючы адзін аднаго.

**Ю. Дракахруст:** — Палемізуючы з Валянцінам Леанідавічам Акулавым, які сцвярджаў, што рэвалюцыя 1917 года — гістарычная памылка, вы казалі, што гэта быў выбар народа. Але ж тое, што зараз адбываецца ў краіне, тыя ж шахцёрскія забастоўкі, стотысячныя дэманстрацыі ў Маскве, іншых гарадах — таксама народны рух.

**В. Чыкін:** — Чаму вы лічыце, што гэта рух народа? Я пакуль што бачу ў гэтым бойку палітыкаў.

**Ю. Дракахруст:** — «Бойка палітыкаў», як вы кажаце, не можа адбывацца без дай прычыны, тым больш у рамках таталітарнай сістэмы. Тут Аляксандр Андрэевіч Савасценка казаў, што КПСС сама вылучыла ідэю шматпартыйнасці. Мякка кажучы, гэта не зусім праўда. Кампартыя вымушана была зрабіць такі крок, бо яе прыспешваў час, легальнае існаванне толькі адной Камуністычнай партыі станавілася ў вачах грамадскасці нонсенсам.

**В. Чыкін:** — Я лічу, што так званыя дэмакраты не адлюстроўваюць інтарэсы народа.

**А. Цялькоўскі:** — Давайце ўсё-такі вернемся да галоўнага пытання нашага «круглага стала» — шляху ад таталітарызму да дэмакратыі. Давайце, у прыватнасці, паглядзім, што ў нас робіцца ў галіне заканадаўчых ініцыятыў і як яны рэалізуюцца ў нашай рэспубліцы правячай партыяй.

**А. Савасценка:** — Правячай дэ-факта, але не дэ-юрэ...

**А. Цялькоўскі:** — Вядома ж, дэ-факта. Для камуністаў заўсёды было галоўным дэ-факта, а права, закон — толькі шырма. Вось і апошнія законы аб пераходзе да рынку. На словах КПСС быццам бы падтрымлівае гэты пераход, а на практыцы праводзіць сапраўдную антырынкавую палітыку. Тое самае з курсам на шматпартыйнасць. Курс курсам, але хіба партакратыя не робіць усё магчымае і немагчымае, каб перашкодзіць нармальнай дзейнасці іншых партый?

Я часам думаю, якія ўсё-такі падобныя таталітарныя рэжымы. Якога ж «падпальвання рэйхстага» нам цяпер чакаць, якой правакацыі, каб было арганізавана цкаванне дэмакратычных сіл? Хіба не на іх ускладаў віну за крызіс М. С. Гарбачоў у сваёй прамове на сустрэчы з беларускай інтэлігенцыяй у Акадэміі навук рэспублікі?

Хопіць, паважаныя камуністы, палохаць нас грамадзянскай вайной. Я ўдзельнік палітычнай авантуры ў Афганістане. Праваяваў там два гады, двойчы быў паранены і ведаю, што такое кроў. І больш я яе не хачу. Разам з тым я разумею, што камуністычная партакратыя не захоча добраахвотна аддаць сваю ўладу і пры любой, нават уяўнай пагрозе, не задумваючыся пусціць у ход зброю. Балазе, у яе руках і армія, і карныя органы МУС і КДБ (дарэчы, апошні дзейнічае па-за законам, бо закона аб камітэце дзяржбяспекі няма).

**А. Савасценка:** — Чаму вы лічыце, што МУС і КДБ знаходзяцца, як вы кажаце, «у руках партыі»?

**А. Цялькоўскі:** — Вам патрэбны прыклады? Калі ў снежні мінулага года некалькі афіцэраў міліцыі выйшлі на плошчу імя Леніна, каб прадэманстраваць сваю нязгоду з існуючымі парадкамі ў органах МУС, іх адразу пачалі цкаваць на службе, аднаго з афіцэраў адразу звольнілі.

**В. Чыкін:** — А партыя тут пры чым?

**А. Цялькоўскі:** — Даруйце, але я ведаю, што гэта было арганізавана палітаддзелам таго ж упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома.

**В. Чыкін:** — Палітаддзелы зараз ніякіх адносін да партыі не маюць.

**А. Цялькоўскі:** — Наколькі я ведаю, у тых палітаддзелах працуюць адны камуністы.

**А. Савасценка:** — Ну і што з гэтага?

**Л. Баршчэўскі:** — Але ж вы самі казалі, што дэпутаты-камуністы ў парламенце выконваюць рашэнні партыйных органаў. А камуністы — работнікі праваахоўных органаў рабіць гэта не абавязаны? Для якой тады, цікава, мэты ў Цэнтральны Камітэт КП Беларусі былі абраны міністр унутраных спраў БССР і старшыня КДБ рэспублікі?

**В. Чыкін:** — А чаму Акулава абралі членам Рады Беларускай сялянскай партыі?

**Л. Баршчэўскі:** — Калі б у Акулава былі ў падначаленні войскі, яго б туды не абралі... Ідэалагізаваны ў нас не толькі праваахоўныя органы, ідэалагізавана ўся эканоміка. Вось чаму нам цяжка рухацца ў напрамку той жа прыватызацыі.

**А. Савасценка:** — Мы як дубінкай б'ём словам «ідэалогія». На мой погляд, ідэалогія — гэта тэорыя кожнай праблемы, гэта вызначэнне праблемы і шляхі рашэння яе.

**В. Чыкін:** — Дэідэалагізацыя — гэта наогул нонсенс.

**Л. Баршчэўскі:** — У эканоміцы гэта не нонсенс. Маецца на ўвазе пераадоленне камуністычных догмаў, якія перашкаджаюць нам зрабіць эканоміку эфектыўнай.

**А. Цялькоўскі:** — У эканоміцы ёсць такое паняцце—пятля Філіпса, згодна з якім пры павышэнні падаткаў на адзін працэнт дзелавая актыўнасць зніжаецца на паўтара працэнта. Чым большыя падаткі павінна выплачваць прадпрыемства, тым ніжэйшая на ім дзелавая актыўнасць. Дык вось, сацыялістычная эканоміка грунтуецца менавіта на прынцыпе максімальнага абкладання падаткамі вытворцы. Ад такога «стымулявання» мы і маем нябачны ва ўсім свеце дэфіцыт тавараў. Адным словам, ідэалогія «сацыялістычнага выбару», за які з такім імпэтам змагаюцца нашы апаненты за «круглым сталом».

**В. Чыкін:** — Гэта не сур'ёзна...

**Ю. Дракахруст:** — Віктар Валянцінавіч Чыкін многа гаварыў пра небяспеку ценявой эканомікі. Мне здаецца, што небяспека гэтая камуністамі перабольшваецца. Па сутнасці, мы маем справу з чарговым міфам, які павінен зняць адказнасць за развал краіны з тых, хто ў гэтым сапраўды вінаваты.

А цяпер — пра вельмі нялюбую вашаму сэрцу прыватызацыю. У гэтай сувязі дазвольце даведацца, як вы ставіцеся да прыватызацыі ўласнасці КПСС, пры ўдзеле якой ствараюцца малыя прадпрыемствы, фактычна кааператывы? Некаторыя спецыялісты сцвярджаюць, што прыватызацыя ў краіне пойдзе менавіта такім шляхам, бо партыйныя структуры найбольш рухомыя, у іх руках улада. Адным словам, камуністы могуць стаць неўзабаве новымі капіталістамі.

**В. Чыкін:** — Глупства. Ні пра які капіталізм тут не можа ісці гаворка. Гэта зусім іншае. Вось прыклад. Наш гарком партыі стварыў малое прадпрыемства «Мінскі кур'ер». Хто з'яўляецца яго ўласнікам? Гарком партыі і яшчэ дзесяць буйнейшых парткомаў горада. Узялі ў банку пазыку, усе прыбыткі пойдуць у бюджэт партыі. Якая ж тут прыватызацыя? Вось калі б я ўзяў ды купіў за свае ўласныя грошы будынак гаркома, — гэта была б прыватызацыя.

**Л. Баршчэўскі:** — Я згодны з Юрыем Дракахрустам — хай камуністы становяцца капіталістамі. Але ёсць тут адзін нюанс. Справа ў тым, што камуністам заўсёды зручней адхапіць лепшы кавалак ад той прыватызацыі. У Наваполацку стаіць недабудаваная гасцініца. І вось ствараецца малое прадпрыемства на чале з загадчыкам аргаддзела гаркома партыі, якое мае намер той гатэль дабудаваць, а потым эксплуатаваць. Трэба сказаць, што прэтэндэнтаў узначаліць гэтае малое прадпрыемства хапала, але старшыня гарвыканкома — даўні прыяцель таго партыйнага функцыянера — перавагу, вядома, аддаў яму.

**А. Цялькоўскі:** — Калі я не памыляюся, гарком партыі здае частку свайго памяшкання ў арэнду?

**В. Чыкін:** — Здаём, у тым ліку і ўвесь другі паверх Мінгарвыканкому.

**А. Цялькоўскі:** — Мне, як дэпутату Мінсавета, трэба гэта запісаць. За што мы яшчэ вінны партыі? Некалі ж партыя блытала сваю і дзяржаўную кішэню. Помню, у 1967 годзе выдавецтва «Звязда», якое было дзяржаўным, раптам стала выдавецтвам ЦК КПБ. Такі яму быў зроблены бясплатны падарунак. Дык, можа, аднавіць статус-кво? Можа, КПБ аддасць тое, што незаконна прысвоіла?

**В. Чыкін:** — У адным з часопісаў я бачыў цікавую карыкатуру. На ёй у адной са славутых сваімі каштоўнымі гаючымі крыніцамі чэхаславацкіх пячор стаяць два неандэртальцы і кажуць, што па закону гэтыя пячоры павінны належаць ім...

**А. Цялькоўскі:** — Зразумеў, — адзін неандэрталец — савецкая ўлада, а хто другі?.. Дарэчы, пра мараль. Газетку «Мы и время», якую выдае ваша «малое прадпрыемства», я б назваў «Мы і «Память».

**В. Чыкін:** — Што вы мне прыпісваеце? Гэта знявага?

**А. Цялькоўскі:** — Нічога не прыпісваю. Я маю на ўвазе артыкулы чарнасоценнага напрамку, якія рэгулярна друкуюцца на яе старонках.

**В. Чыкін:** — Гэта няпраўда.

**В. Тарас:** — Вы мо не чытаеце сваю ўласную газету?

**М. Замскі:** — Але ж у народзе яе называюць «Чыкінскай газетай». Вы пра гэта ведаеце, Віктар Валянцінавіч?

**В. Чыкін:** — Не, але мне вельмі прыемна гэта чуць.

**М. Замскі:** — Ведаючы, што вы будзеце прысутнічаць на нашым «круглым стале», я ўзяў з сабой адзін з апошніх нумароў вашай газеты. Думаю, цяжка знайсці нават сёння выданне, дзе б з такой бессаромнасцю скажаліся факты, дзе б было столькі інсінуацый па адрасе дэмакратычных сіл, таго ж БНФ, Беларускай сялянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, нават ахвяр крывавых падзей у Вільнюсе. На каго разлічваеце вы, змяшчаючы артыкулы, «аўтары» якіх пнуцца даказаць, што ў Курапатах не праводзілася расстрэлаў у канцы трыццатых гадоў, бо «НКВД не расстреливало невинных людей».

І яшчэ адзін момант. Чаму газета ваша, Віктар Валянцінавіч, так «засакрэчана»? Хто яе рэдактар, па якім тэлефоне пазваніць у рэдакцыю? У выхадных дадзеных сказана, што газета перададзена ў Мінск па фотатэлеграфе. Адкуль перададзена, кім? І хто растлумачыць метамарфозу з былой газетай парткома Мінскага гадзіннікавага завода, якая пасля вашага пераходу на працу ў Мінскі гарком ператвараецца ў «независимую левую газету»? Гэта ў Мінску такі «левы» гарком КПБ?

(Працяг на стар. 15).

**РЭХА АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ**

# «Молімся польскаму богу», або Па гэты бок «крэсаў»

З нагоды надрукавання ў «ЛіМе» нататкаў Ю. Закрэўскага «Па той бок «крэсаў» у рэдакцыю прыйшло нямала лістоў. «Польскі» бок, не кранаючы сутнасці нататкаў і не абвяргаючы прыведзеных там фактаў, абураецца тым, што Ю. Закрэўскі паставіў пад сумненне чысціню помыслаў каталіцкага клеру і «амбасадораў польскай культуры» ў адносінах да беларускай зямлі і беларускага народа.

Зрэшты, нічога прынцыпова новага ў гэтых лістах няма. Палярызацыя поглядаў на так званае «польскае пытанне» ў Беларусі вызначылася яшчэ пасля вядомых лімаўскіх публікацый А. Сідарэвіча («Ці будзем мы нацыяй?» і інш.). Не сакрэт, што і партапарат падняў на шчыт гэтае пытанне, асабліва пасля стварэння БНФ, падняў па знаёмым і апрабаваным сцэнарыі: будзеце трымацца «сацыялістычнага выбару» і «абноўленага Саюза», дык маеце шанец вярнуць Вільню, а захочаце незалежнасці — дык можа ўзнікнуць на ладнай тэрыторыі Беларусі «польская аўтаномія»...

Так, пэўная палярызацыя поглядаў сапраўды ёсць, і непадобна на тое, каб нехта ў гэтай спрэчцы збіраўся ўступаць другому. Праўда, беларусам сёння і адступаць ужо няма куды...

Ліст Яна Ляховіча з Вільні, як і некаторыя іншыя, прыйшоў у рэдакцыю яшчэ да публікацыі Ю. Закрэўскага, але ўсё ж пачну гаворку з яго, бо ён выразна дэманструе пэўную пазіцыю.

**«Я сам нарадзіўся ў 1921 годзе на тэрыторыі цяпер Гродзенскай вобласці, а тады Польшчы. І вось цяпер, чытаючы гэтую беліберду, хлусню, узведзеную зноў у праўду, хочацца сказаць вам, рэдакцыі, удумайцеся, што вы друкуеце, ці вы зусім не памятаеце і не ведаеце гісторыі? Ці вы з таго «беларускага парламента», дзе 2/3 дэпутатаў нічога агульнага з беларускім народам не маюць і ім да лямпачкі інтарэсы Беларусі? Ім бы трэба сядзець дзенебудзь у рускай глыбінцы: у Тамбове, Мураме, бо ўжо і ў Цэнтры іх інтарэсы падарваны. Паглядзіце, з чым, сябры, застанецеся. Гэта між іншым. У адказ пісакам тыпу Пётры Васілеўскага і іншым я хачу адказаць, што ў Польшчы міжваеннай, ці як яны называюць белапольскай, не было ніколі генацыду супраць уласнага насельніцтва, як гэта было ў СССР і ў БССР. І параўноўваць тагачасны рэжым і нялюдскі тэрор з Польшчай — гэта проста палітычны авантурызм, а калі па-людску — дык гэта бескультур'е і мэтанакіраваная фальсіфікацыя фактаў і абалваньванне і без таго адурманенага народа.**

**Часта прыгадваецца такі «грозны канцлагер», як Бяроза Картузская. Але ж у ім выключна сядзелі агітатары савецкага жыцця, якія дамагаліся ўсталявання і ў Польшчы тэрору тыпу 1937 года, якога як агню баяліся тагачасныя ўлады Польшчы і ўсяляк імкнуліся ўберагчы сваё грамадства і народ. І абсалютна правільна праследваліся прыхвасні сталіншчыны, і я з гонарам магу сказаць, што да 17 верасня 1939 года гэта тагачасным уладам Польшчы ўдавалася. Дык каго ж вы абараняеце?**

**Часта пішуць, як прыгнятаўся чалавек у Заходняй Беларусі, як забаранялі там беларускую мову. Глупства ўсё гэта. Бо дзякуючы «прыгнёту» беларуская мова толькі і захавалася што ў Заходніх раёнах БССР, дзе яе так «забаранялі пілсудчыкі».**

**Большасць з тых, што нарадзіліся да 1939 года, па-ранейшаму лічаць сябе палякамі і моляцца польскаму Богу. Маладзейшае ж пакаленне адурманена афіцыйнай прапагандай і стала савецкім народам, вымушаным забыць ужо і беларускую мову...**

**Хай азнаёмяцца з маім лістом усе тыя, хто так клапоціцца аб так званай паланізацыі Гродзенскай вобласці».**

Па-першае, паважаны таварыш Ляховіч, дазвольце не згадзіцца з той зневажальнай характарыстыкай, якую вы даяце расійскай глыбінцы. Вы, трэба думаць, вялікі знаўца гісторыі (нездарма ж дакараеце нас, што мы яе «зусім не памятаем і не ведаем»), таму павінны ведаць, што ў трагічным для Масковіі пачатку XVII стагоддзя менавіта рускія людзі з глыбінкі — паспалітае рушэнне, узначаленае Мініным і Пажарскім, вышпурнула войска Рэчы Паспалітай з Маскоўскага Крамля і з Маскоўскай дзяржавы, дзе нашы з вамі продкі сядзелі акупантамі. Мяркую, што сённяшняя расійская глыбінка нічым не горшая за тагачасную.

Па-другое, наконт параўнання Сталіна з Пілсудскім ці сталіністаў з пілсудчыкамі. Вы дарэмна абураецеся ім. Такое параўнанне цалкам апраўданае. Бо рэжым Сталіна і рэжым Пілсудскага адрозніваліся толькі ў дэталях. Скажам, Сталін, маючы пад сваёй уладай велізарную тэрыторыю са шматмільённым насельніцтвам, мог дазволіць сабе такую раскошу, як грандыёзны ГУЛАГ. Пілсудскі ж у «маленькай» Польшчы быў вымушаны абыходзіцца «маленькім» ГУЛАГам — Бярозай Картузскай. Тут парадкі былі не такія жорсткія, як на сталінскім лесапавале, але вы дарма іранізуеце, беручы словы «грозны канцлагер» у двукоссе. Думаю, вы не захацелі б змяніць сваю віленскую кватэру на «камфартабельныя» нары ў Бярозе Картузскай, не пажадалі б сваім дзецям і ўнукам стаць насельнікамі такой установы... І сталіністы, і пілсудчыкі мелі на Беларусі амаль аднолькавыя палітычныя мэты і толькі крыху розніліся ў сродках і вызначэнні тэрмінаў дасягнення гэтых мэтаў. І сталіністы, і пілсудчыкі хацелі пазбавіць беларусаў нацыянальнай адметнасці, ператварыць у падатлівую этнічную масу, у будаўнічы матэрыял для сусветнай бальшавіцкай імперыі ці «Польшчы ад мора і да мора».

І захавалася родная мова ў заходніх абшарах Беларусі, што з 1920 па 1939 год былі пад польскай акупацыяй, не дзякуючы пілсудчыкам, а насуперак ім. Тыя проста не паспелі паланізаваць унутраную калонію Польшчы (так, дарэчы, называлі Заходнюю Беларусь самі палякі ў міжваенны перыяд). Афіцыйнай забароны на беларускую мову, можа, і не было, але на справе рабілася ўсё магчымае, каб выкрасліць яе з ужытку, замяніць паўсюдна мовай польскай. Відавочна, што паланізатарская палітыка польскіх уладаў была ў чымсьці больш эфектыўная, чым русіфікатарская палітыка бальшавікоў на Беларусі. Бальшавікі рабілі стаўку на гвалт і прымус; пілсудчыкі ж лезлі ў душу праз слова Божае на польскай мове (у БССР у гэты час нішчылі храмы), праз рамантызацыю гісторыі Польшчы (у СССР і БССР была закрэслена ўся дакастрычніцкая гісторыя), дзейнічалі, у адрозненне ад сваіх бальшавіцкіх калег, езуіцка-вытанчанымі метадамі. Ёсць плён — і вы, Ян Ляховіч, сёння моліцеся «польскаму Богу».

Асноўны пафас вашага пісьма скіраваны на тое, каб сцвердзіць, што польскі рэжым у Заходняй Беларусі быў менш жорсткі, чым бальшавіцкі ў БССР. Час ад часу бываючы ў Польшчы, гартаючы польскую прэсу, магу канстатаваць, што палякі не надта схільныя весці дыскусію на тэму «Дзе Польшчы было б лепей: пад Гітлерам ці пад Сталіным?» Болей таго, саму пастаноўку такога пытання ў Польшчы палічылі б абразлівай. Лепей жыць у незалежнай дзяржаве і самім вырашаць свой лёс. Дык чаму ж вы, т. Ляховіч, адмаўляеце ў гэтым праве беларусам? Беларусам таксама не патрэбны апекуны ні з Захаду, ні з Усходу.

Дазволю сабе не згадзіцца з вашым меркаваннем, нібыта барацьбіты супраць польскай акупацыі (вы называеце іх «чырвонымі агітатарамі», «прыхваснямі сталіншчыны») імкнуліся ўсталяваць у Заходняй Беларусі бальшавіцкі тэрор узору 1937 года. У гэтых людзей былі палітычныя памылкі, цалкам зразумелыя ў кантэксце часу, але няма падстаў сумнявацца ў іх шчырым патрыятызме, сумленнасці, высокай чалавечай годнасці. Не іх віна, а іхняя трагедыя, што больш моцныя сілы здолелі скарыстаць беларускі патрыятызм ва ўласнай палітычнай гульні пад назвай «сусветная рэвалюцыя».

Працяг тэмы — ліст Віктара Ляўданскага з Ліды:

**«Нас, палякаў, што жывуць у Беларусі, жадаюць «перарабіць» на беларусаў, і «ЛіМ» гэту ідэю падтрымлівае. Вы, панове, убіваеце нам у галовы, што мы не палякі, а беларусы каталіцкай веры. Ніколі беларусы каталікамі не былі. Але ўжо калі лічыць па-вашаму, дык беластоцкія беларусы — гэта не беларусы, а палякі праваслаўнай веры? Вам не даспадобы, што да нас прыязджаюць служыцелі культу з Польшчы, не падабаецца, калі мы размаўляем на польскай мове. Відаць, засталося яшчэ давесці, што Адам Міцкевіч таксама беларус, ён жа нарадзіўся на Беларусі. Рышард Кацынэль у сваім артыкуле гаворыць пра прыблізна 400 тысяч палякаў, што жывуць у БССР. Не! Па самых сціплых падліках на Беларусі жыве прыблізна 2,5 мільёна чалавек польскай нацыянальнасці...»**

Што можна адказаць таварышу Ляўданскаму з вуліцы Камунараў у Лідзе? Калі ён уважліва чытае «ЛіМ», калі цікавіцца навуковай літаратурай, дык, відаць, ужо ведае, што этнічных палякаў на Беларусі амаль няма. Тое, што людзі з польскай нацыянальнай свядомасцю — гэта паланізаваныя беларусы, пераканаўча даказваюць доследы гісторыкаў, этнографаў, лінгвістаў. Таму і заява, што калі «мы не палякі, а беларусы каталіцкай веры», дык «беластоцкія беларусы — палякі праваслаўнай веры» гучыць непераканаўча. Нацыянальнасць вызначаецца не прыналежнасцю да той ці іншай дзяржавы, а этнічным паходжаннем. Беласточчына — этнічная Беларусь, якая разам з іншымі заходнебеларускімі землямі пасля дваццаці год польскай акупацыі на нейкі час была ўз'яднана з Беларускай рэспублікай, а ў 1944 годзе Сталін падараваў яе тагачаснай так званай Народнай Польшчы. Беларусы — карэннае насельніцтва Беласточчыны, палякі ж з'явіліся там толькі апошнім часам.

Нацыянальнасць не вызначаецца і веравызнаннем. Таму не трэба 2,5 мільёна беларусаў-каталікоў запісваць у «палякі». Вы ж не лічыце палякамі іспанскіх, ірландскіх, японскіх ці бразільскіх каталікоў.

Баюся, што таварыш Ляўданскі будзе крыўдаваць, але выкажу свае меркаванні і адносна нацыянальнай і культурнай прыналежнасці Адама Міцкевіча. Вялікі пясняр з Наваградка беларус не толькі таму, што нарадзіўся на Беларусі і род ягоны мае беларускія эт-

# НІХТО НЕ ХАЦЕЎ ЗНЕВАЖАЦЬ...

**На публікацыю «Па той бок «крэсаў» адгукнуўся згаданы ў ёй кіраўнік польскага таварыства ў Брэсце М. Дабрынін. Ён даслаў у рэдакцыю гнеўны ліст. Адказаць на яго мы папрасілі аўтара «польскіх уражанняў». Ліст М. Дабрыніна (у арыгінале) і адказ Ю. Закрэўскага змяшчаем разам з аглядам водгукаў на публікацыю.**

**«Уважаемый тов. Редактор!**

**В связи с публикацией в еженедельнике «Літаратура і мастацтва» (№ 8 от 22.02.91 г.) статьи «Па той бок крэсаў» хотел бы выразить Вам нижеследующее.**

**1. В еженедельнике опубликована наглая клевета ничего общего не имеющая с моим выступлением в Ратуше г. Белостока на встрече с интеллигенцией города в июле 1990 г.**

**2. В духе худших времен прошлого мне «пришивается» неофициальные высказывания о том, что «белорусы — это быдло». Да будет известно автору, что сейчас такое высказывание не употребляется и не воспринялось бы в Польше, т. к. поляки хотят дружбы с белорусским народом. В своей жизни я никого не оскорбил на национальной основе, тем более, что многие мои родственники и друзья — белорусы. Надо все же знать меру лжи!**

**3. Встреча в Ратуше представлена как сборище враждебно настроенной по отношению к нашей стране публики. Это также ложь. Встреча проходила в духе взаимопонимания. Высказывалась благодарность, в частности, властям Белоруссии за помощь польскому населению в организации возрождения польского языка и культуры.**

**Клеветнические утверждения автора статьи наносят вред в отношениях между нашими народами-соседями, идут в разрез добрососедской политике между СССР и Республикой Польша.**

**4. Мне трудно утверждать почему статья опубликована спустя 7 месяцев после свершения факта. Возможно автор расчитывал, что за давностью можно безнаказанно клеветать, извращать факты и т. д. чтобы дезинформировать читателей одного из популярных изданий Белоруссии.**

**Если так, то он ошибся, т. к. живы более 100 участников встречи с польской стороны, представляющих ученых Варшавского университета, широкие круги интеллигенции Белостока, а также почти 30 человек представляющих 4 республики СССР.**

**Ход встречи освещался средствами массовой информации, тексты выступлений были сданы организаторам встречи. Все это может быть представлено в качестве доказательств, включая и живых свидетелей, а их более 120 человек!**

**В связи с вышеизложенным, уважаемый тов. Редактор, я требую опровержения опубликованного материала в упомянутой статье в ближайшем номере еженедельника и извинения со стороны автора передо мной за клевету.**

**В противном случае я вынужден буду обратиться за помощью в органы правосудия и требовать этого в судебном порядке.**

**С уважением!**

**М. ДОБРЫНИН.**

г. Брэст.

●

Хваляванні спадара М. Дабрыніна, што даслаў ліст-пратэст на мой артыкул «Па той бок «крэсаў» («ЛіМ», 22 лютага), досыць зразумелыя. Адраджэнне польскасці на Беларусі толькі распачалося, а ўжо столькі казусаў і няўдачаў! То выплыве на свет божы інфармацыя пра спаленыя на Беласточчыне святыні беларусаў, то звесткі пра гвалтоўнае апалячванне беларусаў на іхняй жа Бацькаўшчыне праз касцёл, рукамі слуг Польшчы, а потым ужо Богу. А тут новы скандал: паслалі будучых палякаў вучыцца польскаму духу, а яны, няўдзячныя, узялі ды пераказалі ўсё пачутае і пабачанае. Не вытрымалі шавіністычнага прэсінгу, які па праўдзе кажучы, не заўсёды зыходзіў ад польскіх палякаў.

Спадзяюся, вы пераканаліся, што зрабіць са свядомага культурнага беларуса паляка гэтак жа немагчыма, як немагчыма зляпіць паляка-патрыёта з беларуса-невука, нацыянальнасць якога залежыць ад рынку, сёння пакуль польскага, а заўтра...

Але вам хацелася колькасці, двухмільённага польскага пытання!.. Узгадайце добрую беларускую прымаўку: «прыгажэйшае даражэйшае, а што заганнае, тое таннае». Няхай гэтая паездка будзе вам урокам, дбайце пра палякаў і не чапайце чужога.

нічныя і культурныя карані. Міцкевіч, які да скону захаваў любоў да беларускай зямлі (называў яе згодна з гістарычнай традыцыяй Літвою—не блытаць са Жмуддзю.—**П. В.**), належыць Беларусі нават сваёю моваю; некаторыя лічаць, што няправільна лічыць яе польскаю, гэта хутчэй адзін з дыялектаў мовы беларускай. Мова, якая была ў Польшчы ў часы Міцкевіча, шмат у чым адрозніваецца ад той, якой карыстаўся паэт. Дарэчы, ніхто пакуль што добра не шукаў вершаў Адама Міцкевіча, пісаных чыста беларускай моваю. Нагадаю яшчэ, што прозвішчы з канчаткам на «іч» (Міцкевіч), а таксама на «і» (Ляўданскі) — тыпова беларуская з'ява, і ў Польшчы з'явіліся толькі пасля уніі старажытнабеларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — з Польскай каронай.

Прыйшоў у рэдакцыю даволі цікавы ліст з Йошкар-Алы. Пісаны часткова беларускаю, часткова польскаю мовамі. Подпіс — «Афіцэр ВМФ А. Якаўлеў». Пабачыўшы подпіс, падумаў: можа, савецкі афіцэр хоча выказаць сваё абурэнне актамі вандалізму ў адносінах да савецкіх вайсковых помнікаў у Польшчы? Не, т. Якаўлеў абураецца «антыпольскімі» артыкуламі А. Сідарэвіча. Каму што баліць...

Юрась Грынкевіч з Бярэсця (Брэста) глядзіць на беларуска-польскія стасункі на Беларусі з іншага боку. Ён прыгадвае інцыдэнты, якія меў пад час жыцця ў Гародні: «...калі мясцовыя «палякі» ў нейкай гутарцы пачулі, што я беларус, дык выпалілі проста ў твар: «быдла, а не народ!» Прычым гэта былі свае ж хлопцы, студэнты, з якімі разам гартаў падручнік».

І зноў піша ў рэдакцыю таварыш Ляўданскі з вуліцы Камунараў у Лідзе: «Артыкул Ю. Закрэўскага злобны, увесь прасякнуты злобаю да польскага народа. Мне незразумела, па якому ўказанню Закрэўскі сее варожасць паміж нашымі народамі. Можа, гэта ягоная камуністычная місія пасварыць усе народы, што насяляюць СССР».

Чым жа Ю. Закрэўскі абразіў палякаў? Праўдай? Яшчэ, наколькі я ведаю, Ю. Закрэўскі, у адрозненне ад кіраўнікоў Саюза палякаў Беларусі, кантактаў з КПБ не мае.

Аляксандр Сямёнаў, які падпісаўся «простой русский человек», таксама жыхар Ліды, таксама не згодны з Ю. Закрэўскім. Праўда ні ён, ні іншыя аўтары лістоў з «польскага» боку (хоць ён і называе сябе «третьей стороной») не бяруць на сябе смеласць абвяргаць прыведзеныя ў артыкуле «Па той бок «крэсаў» факты. Лісты ў асноўным эмацыянальнага характару. Маўляў, нельга быць такім няўдзячным, нельга так пісаць пра Польшчу і палякаў — і ўсё тут!

«Нічога дзіўнага, — піша А. Сямёнаў, — што слухачам курсаў апавядаецца пра Армію Краёву. Ці ж можна на гэтую тэму што-небудзь прачытаць у беларускай прэсе?» Можна. Летась у «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул «Попел і памяць» — пра тое, як акаўцы ў чыста эсэсаўскім стылі палілі беларускія вёскі на Беласточчыне, расстрэльвалі беларусаў толькі за тое, што яны беларусы.

«Не сакрэт, што палякі ў масе сваёй не любяць кампартыю, — піша далей А. Сямёнаў, — але яны вельмі выразна аддзяляюць кампартыю ад простых людзей, рускіх ці беларусаў». Зрэшты, у кожнага свае палітычныя сімпатыі (і ва ўмовах шматпартыйнасці гэта натуральна), але Р. Кацынэль у артыкуле «Мы — частка народа Беларусі», які быў змешчаны ў «ЛіМе», піша пра цеснае супрацоўніцтва польскага культурнага таварыства і гродзенскага абкома КПБ, выказвае падзяку абкомаўскаму начальству за разуменне польскіх патрэб.

Прачыталі нататкі Ю. Закрэўскага і на Украіне — прыйшоў ліст ад Васіля Гарбачука з горада Славянска Данецкай вобласці. «Артыкул выклікае сумныя думкі. Калі вам, паважаны Ю. Закрэўскі, гэта не будзе цяжка, дык папрашу напісаць мне некалькі слоў і пра польскія пасяганні на Украіну. Бо «гістарычныя правы», відаць, прад'яўляюцца і на гэту тэрыторыю. Дзе можна гэта пачытаць?»

Шаноўны Васіль Ціханавіч, пералік польскіх выданняў (і тых, што друкуюцца ў Рэспубліцы Польшча, і тых, што выпускаюць асяродкі польскай эміграцыі ва ўсім свеце), дзе ў той ці іншай форме падымаецца пытанне «вяртання Польшчы на крэсы», прасцей гаворачы — дэкларуюцца тэрытарыяльныя і іншыя прэтэнзіі да Беларусі і Украіны, заняў бы не адзін аркуш, таму выканаць вашу просьбу цяжка. Ды і не хацелася б. Мы, нягледзячы ні на што, спадзяёмся на розум і разважлівасць нашых землякоў і суседзяў.

**Чытаў і каменціраваў лісты**
**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## «Палескі карагод»

26—30 чэрвеня ў Пінску будзе праведзены першы рэгіянальны фестываль народнага танца «Палескі карагод», мэта якога — захаванне, развіццё і прапаганда рэгіянальнай танцавальнай культуры, удасканаленне мастацкага ўзроўню рэпертуару і выканаўчага майстэрства калектываў аматарскай творчасці, эстэтычнага выхавання насельніцтва. Сярод арганізатараў фестывалю — Міністэрства культуры БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, выканком Савета Федэрацыі прафсаюзаў БССР, сакратарыят ЛКСМБ.

У фестывалі прымуць удзел этнаграфічныя і фальклорныя танцавальныя гурткі, аматарскія калектывы народнасцэнічнай харэаграфіі незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і ўзросту з Брэсцкай вобласці, па адным калектыве з Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай абласцей і г. Мінска, а таксама госці з Германіі, Польшчы, Італіі.

Пінскі фестываль прымае эстафету ў І Рэспубліканскага фестывалю беларускага танца, які прайшоў летась. У будучым плануецца праводзіць такія фестывалі па рэгіёнах. У 1922 г., згодна распрацаванай праграме, такі фестываль пройдзе ў Мінску.

А пакуль ідзе падрыхтоўка да фестывалю. У сакавіку на першым пасяджэнні аргкамітэта, які адбыўся ў Пінску, была зацверджана дырэкцыя фестывалю на чале з дырэктарам Пінскага ГДК А. Сейфутдзінавай.

**Прэс-служба Міністэрства культуры БССР.**

## Цэнтр шукае спонсараў

Гуманітарны ліцэй, у якім выкладаюць вядомыя ў рэспубліцы навукоўцы, дзеячы культуры, грамадскія дзеячы; экскурсіі па Беларусі (у тым ліку на замежных мовах); выданне навучальнай і мастацкай літаратуры; кіна- і фотапрадукцыя; рэкламная і канцэртная дзейнасць — гэта далёка не ўсе віды дзейнасці **Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра Міністэрства народнай адукацыі БССР.**

Цэнтр гатовы разгледзець усялякія прапановы па розных відах дзейнасці і супрацоўніцтва, аказаць арганізацыйную дапамогу мастацкім і вытворчым калектывам па адкрыцці малых прадпрыемстваў і гаспразліковых участкаў. У планах цэнтра — наладзіць узаемакарысныя сувязі з майстрамі народных рамёстваў. Цэнтр адчувае патрэбу ў выкладчыках гуманітарных, прыродазнаўчых і дакладных навук, якія валодаюць жывой беларускай мовай і могуць выкладаць па-беларуску, для працы ў Мінскім гуманітарным ліцэі і філіях у іншых гарадах рэспублікі.

Дзейнасць цэнтра не з'яўляецца камерцыйнай, але патрабуе значных матэрыяльных выдаткаў. Таму Беларускі гуманітарны цэнтр **спадзяецца знайсці спонсараў**, якія жадаюць дапамагчы адраджэнню нашай мовы і культуры, развіццю гуманітарнай адукацыі на Беларусі. У планах цэнтра — стварэнне кіна- і тэлевізійных фільмаў, тэлеперадач, замежныя гастролі народнага ансамбля, выданне сусветна вядомых дзіцячых казак і прыгодніцкай літаратуры для моладзі ў перакладзе на беларускую мову. З дапамогай спонсараў цэнтр змог бы значна хутчэй арганізаваць працу падраздзяленняў з наступным узаемакарысным супрацоўніцтвам. Магчымы долевы ўдзел у прыбытках, рэклама прадукцыі спонсара, іншыя віды супольнай дзейнасці.

Спонсары Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра не толькі зробяць свой уклад у адраджэнне культуры на Беларусі, дапамогуць гуманітарнай адукацыі ў рэспубліцы, але і набудуць перспектыўнага кампаньёна. Усе, хто у гэтым зацікаўлены, могуць звяртацца на адрас: 220004, г. Мінск, вул. Караля, 16 а, тэлефон 20-83-47.

Разліковы рахунак 100609126 у Белжылсацбанку г. Мінска.

Код МФА 400019.

## Паяднала музыка

Слонімскі народны аркестр народных інструментаў урачыста адзначыў сваё 25-годдзе. Для аматараў музыкі калектыў падрыхтаваў вялікі юбілейны канцэрт, які прайшоў у раённым Доме культуры.

Сёння ў складзе аркестра больш як пяцьдзесят самадзейных музыкантаў, выкладчыкаў музыкі, вучняў мясцовай дзіцячай музычнай школы, рабочых і служачых горада.

Стварыў аркестр і ўзначальвае яго вялікі аматар народнай і класічнай музыкі, выпускнік Белдзяржкансерваторыі, добры прафесіянал, педагог і выканаўца Марат Аляксеевіч Мамікаў.

**А. ЦЫВІНСКАЯ.**
г. Слонім.

## ...І Скарыны воблік непаўторны

Шаснаццаты том гісторыка-біяграфічнага альманаха «Праметэй» серыі «Жыццё выдатных людзей», які выпускае выдавецтва «Молодая гвардия», тэматычны і прысвячаецца тысячагоддзю рускай кніжнасці. Шматлікія нарысы, артыкулы, эсэ, не пазбаўленыя і навуковых гіпотэз, а таксама творчыя партрэты вядомых дзеячаў, адлюстроўваюць невядомыя ці малавядомыя шырокаму чытачу старонкі гісторыі літаратуры і культуры, звязаныя з развіццём друкаванага слова.

Не абыдзены вызначальныя моманты і з гісторыі кнігадрукавання іншых славянскіх народаў. У прыватнасці, і Скарыны воблік непаўторны не губляецца на фоне гаворкі пра тое, як чалавецтва ішло дарогай веды.

І не толькі Скарыны. У артыкуле Аляксея Каўкі «Кніжныя традыцыі Скарыны» згадваюцца імёны яго прадаўжальнікаў, гэткіх самых тытанаў на ніве беларускага кнігадрукавання — В. Цяпінскага, С. Будная і іншых, гаворыцца аб тым, як справа, пачатая Скарынам, атрымала працяг, як беларуская кніга пайшла па свеце.

А. М.



Але звярнуся канкрэтна да вашага ліста і дазволю невялікую цытату: «В духе худших времен прошлого мне «пришивается» неофициальные высказывания о том, что **«белорусы — это быдло»**. Да будет известно автору, что сейчас такое высказывание не употребляется и не вспринялось бы в Польше, т. к. поляки хотят дружбы с белорусским народом».

Значыць, праблема толькі ў тым, што ў Польшчы гэткі выраз зараз не ўжываецца і не ўспрымаецца?.. А калі б ужываўся, вы ад аўтарства не адмовіліся б?

А што да дружбы народаў, дык, думаю, ані вы, ані ўсе разам узятыя філосафы-інтэрнацыяналісты не здолеюць вытлумачыць сэнс гэтага няўцямнага лозунга.

Але калі вы, спадар Дабрынін, усё ж такі настойваеце на магчымасці дружбы народамі, плямёнамі, рэгіёнамі ці яшчэ чым, тады вы павінны нагадзіцца, што родныя і духоўныя айцы Таварыства прыяцеляў Вільні і Гродна, а таксама выданняў кшталту «Кур'ера Падляшскага», якія дагэтуль не могуць вырасці са штонікаў сярэднявечных тэрытарыяльных амбіцый (Польшча ад мора да мора), кампраметуюць палякаў сваёй шавіністычнай пазіцыяй і замінаюць палітычнаму паразуменню паміж Беларуссю і Польшчай, што, дарэчы, не так даўно было пацверджана на афіцыйнай сустрэчы міністраў замежных спраў нашых рэспублік.

Так што, спадар Дабрынін, лепей адкінуць пакрыўджаную позу і спакойна, цвяроза разабрацца ў прычынах непаразуменняў, якія дзе-ні-дзе ўзнікаюць паміж беларусамі і палякамі ў Беларусі.

Зычу вам поспехаў у культурна-асветнай працы, а Саюзу палякаў Беларусі раю не даць сябе ўблытаць у палітычныя авантуры.

**Юрась ЗАКРЭЎСКІ.**

# НАРОД СКАЖА? НАРОД СКАЗАЎ!

**(Пачатак на стар. 5, 12).**

**В. Чыкін:** — Вы памыляецеся — газета не толькі не накіроўваецца гаркомам партыі, яна нават не курыруецца малым газетным прадпрыемствам «Мінскі кур'ер», які яе выдае. Усё гэта спецыяльна агаворана ў дагаворы, падпісаным выдаўцом і рэдактарам.

**М. Замскі:** — Магчыма, магчыма... Але многае з таго, што вы сёння гаварылі ў нас за «круглым сталом», я чытаў у «Мы и время».

**Л. Баршчэўскі:** — Я таксама трымаў у руках гэтае выданне. Не трэба рабіць з нас ворагаў. На з'ездзе БНФ, які адбыўся днямі, было падкрэслена, што мы не ўскладаем адказнасці за ўсе злачынныя дзеянні КПСС на радавых камуністаў. Іншая справа, што не можам быць абыякавымі да шалёнай кампаніі, якая вядзецца супраць нас на старонках партыйнай прэсы. Членаў БНФ там інакш як экстрэмістамі не называюць. Мы разумеем, дзеля чаго гэта робіцца: у масавай свядомасці экстрэміст абавязкова павінен быць са зброяй. Але зброя не ў нас. Зброяй загадваеце вы, камуністы.

**А. Савасценка:** — Хутчэй — Вярхоўны Савет...

**Л. Баршчэўскі:** — Члены парламенцкай апазіцыі выходзілі з прапановай аб стварэнні камісіі па вайсковых пытаннях, але яна не прайшла з-за процідзеяння камуністаў, якія складаюць у Вярхоўным Савеце большасць..

Мы імкнёмся ўносіць у працу парламента канструктыўны пачатак. Зараз, напрыклад, прадстаўнікі апазіцыі працуюць над альтэрнатыўнай энергетычнай праграмай, праграмай пераходу да рыначнай эканомікі. Дарэчы, з некаторымі кіраўнікамі ўрада рэспублікі мы часта знаходзім агульную мову, згоду. Я не хачу, каб мы з вамі ўспрымалі адзін аднаго, як ворага. Мы апаненты.

●

**На пасяджэнні «круглага стала» прысутнічаў З. Пазняк. Але па нейкіх сваіх меркаваннях ён не пажадаў прыняць удзел у дыскусіі, пакінуўшы пісьмовыя заўвагі па пытаннях, узнятых удзельнікамі «круглага стала».**

**Вось некаторыя з гэтых заўваг:**

**«Механізмы рэальнай улады КПСС: манаполія ўлады, манаполія ідэалогіі, палітыкі, манаполія ўласнасці, інфармацыі, структура ценявой улады.**

**Скасаванне 6-га артыкула Канстытуцыі было вымушаным ходам КПСС. Яно пазбавіла камуністычную партыю некаторых фармальных аргументаў у барацьбе з іншадумцамі. У астатнім усё засталося па-старому.**

**Ці стане КПСС парламенцкай партыяй, супрацоўнічаючы з іншымі палітычнымі арганізацыямі? Не стане. Па сваёй крымінальнай сутнасці, форме арганізацыі і структуры яна не з'яўляецца партыяй. Гэта сістэма карпаратыўнай ценявой улады, якая дасягаецца нелегітымнымі, крымінальнымі сродкамі. У свабодным свеце камуністы вымушаны падпарадкавацца дэмакратычным парламенцкім законам і нікчэмна існуюць.**

**«Сацыялістычны выбар» — тэрмін, прыдуманы замест паняцця «сацыялістычны лагер». Сутнасць адна і тая ж.**

**Савет, ці парламент, муніцыпалітэт. Саветы — гэта прымітыўная форма ўлады, прыстасаваная для функцыянавання КПСС. Самастойна як улада, Саветы існаваць не могуць. Гэта службовая форма таталітарнай сістэмы ўлады».**

**«Круглы стол» праводзіўся яшчэ да масавай забастоўкі дзесяткаў тысяч беларускіх рабочых, якая ўскалыхнула рэспубліку, рэхам пракацілася па ўсёй краіне. Забастоўку гэтую можна ўспрыняць як своеасаблівы адказ на апеляцыі, накшталт: «Народ скажа, з кім ён». Вось ён і сказаў!**

Матэрыялы «круглага стала»
да друку падрыхтаваў
**М. ЗАМСКІ.**

**Міхась СКРЫПКА**

## СПАРЫШЫ

Яны жылі, што
спарышы —
Два целы пры адной
душы.
Былі заняты працаю,
Пісалі дысертацыі
«Аб прагнасці уласніка»,
«Пра новы быт
калгасніка».
І разам лезлі ўгору
У навуцы да вяршынь.
Адзін другому творы
Дарылі ад душы.
І ні адной гулянкі
Алесь не мог без Янкі,
Дзе на застоллі белым
Шампанскае кіпела.
Здаецца, не раздзеляць
Ні людзі іх, ні час,
Але і ў добрым целе
Жыве мікроб падчас.
А ўсё праз тыя дачы:
Лягла між іх мяжа.
І ўсё пайшло іначай —
Суседзі на нажах.
Адзін другога «чысцяць»:
— Хіба ж гэта сусед?
Нібыта сам нячысцік
У той мяжы засеў.
Цяпер на дачах тры
мяжы
Сіпяць абодва, як вужы
. . . . . . . . . . .
Цяпер у «спарышоў»
Ужо да таго даходзіць —
Калі ў трамвай адзін
зайшоў —
Другі адтуль выходзіць.

## КАЛЮЧАЯ ШРАПНЕЛЬ

✦

Калі каго пачнуць
кляваць,
Ён тут як тут, каб
апляваць.

✦

Вядома нам спрадвеку,
Што чалавек настроем
дужы,
Бо гумар чалавеку,
Што пах для ружы.

✦

Там, дзе розум змаўчыць,
Там дурань крычыць.

✦

Бывае, і гультай
клянецца,
Што ён лайдачыць не
хоча.
Не ўсякая курна нясецца,
Якая сакоча.

✦

Лепш быць у добрага ў
апале,
Чым у нягодніка ў
пахвале.

✦

Сабака людзям — друг,
Аб гэтым знае ўсякі,
Але бяда, як друг
Акажацца сабакам.

✦

Не вынаходзь, чаго
людзям не трэба.
Не лезь па драбінах на
неба.

✦

Не налятай
На падначаленых асой.
Не пасылай ката
За каўбасой.

**Марцін КОЎЗКІ**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Юрыст — дантысту, дантыст — кааператару, кааператар — адміністратару, адміністратар — ювеліру, ювелір — касіру, касір — прафесару, прафесар — слесару, слесар — таксісту, таксіст — юрысту... Так і коціцца яна, гэта жывая капейчына.

□

— Цур, я першы, — кукарэкнуў пеўнік.

— Як гэта, як, — закракалі качкі, — мы ж прыйшлі з вечара чарадой.

— Ветэраны — без чаргі, — сыкнуў гусак.

— Угаманіцеся, — прасакатала курыца, — у птушніку тхор.

□

Не пытай у манумента, як ісці, куды — манумент рукой пакажа: вам, маўляў, туды. Ну, а як разверне нехта важкі пастамент, то куды пакліча слынны манумент?

□

Ці той у нас герб — молат і серп? Калі герб з каласамі, чаму хлеб за марамі? Калі свеціць сонца, чаму не ў кожнае аконца? А пакліч да пралетарыяў, ці не патрабуе ён каментарыяў? Дык ці той у нас герб — спарыш «молат і серп»?

□

Парламенцкі дыялог: — Параліч улады — гэта рэгрэс дзяржавы.

— Так-то яно так, ды параліч прагрэсіўны.

□

Асігнацыя 199... года: на адным баку — Ленін, на другім — двухгаловы арол.

□

Рэклама: савецкія папяровыя грошы — найлепшыя ў Савецкім Саюзе!

□

Што рабіць? Рабіць няма чаго.

□

О гэтыя механічныя лялькі, што кажуць «мама» і заплюшчваюць вочы, калі іх куляюць на спіну — нашы савецкія нічым не горшыя за іншаземныя!

□

Схізма: школа ненавуковага камунізму.

□

Дайце слова скамароху, хай блазнуе, хай пяе — мо праславіць ён эпоху тым, што высмяе яе.

□

Што б сказаў глуханямы, каб загаманіў, як мы? Ён сказаў бы сумна: «Жывяце шумна».

□

О краіна разумнікаў, дзе кожны ведае дурнейшых за сябе! І краіна дурняў, дзе вераць, што дурных няма!

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## Ухвала сабе і вясковым паэтам

Дух мой цёмны неяк
зжыўся
Са сталіцай і з сям'ёю.
Дзякуй Богу — я не
спіўся,
Бедны розум мой — са
мною...

І хаджу я на работу
З панядзелка да
суботы,
А ў суботу і ў нядзелю
Я над вершамі пацею.

Не хаджу я па тэатрах,
І не быў я на выставах...
І таму, як кажуць трапна:
Не баляць мазгі ў
суставах.

Знай, хадзі сабе з
работы
З панядзелка да
суботы,
А ў суботу і ў нядзелю
Вершаў зноў прадзі
кудзелю.

Вось і гэты верш, мяркую,
Стылем постсацрэалістаў
Напісаў і надрукую
Я ў выданні плюралістаў.

І, напэўна, на работу
Я пайду ўжо без
ахвоты,
А на гульбішча ў
нядзелю
Гальштук-класіка надзену.

Вёску я мінуў транзітам.
Там яна — за
небасхілам...
Туфлі, хоць і па
візітках,—
Гэта ўсё-ткі не бахілы!..

Тут рыфмую я да поту
З панядзелка да
суботы,
А ў суботу і ў нядзелю
Ад пісанага «балдзею».

# ІХ ЗОРКІ СВЕЦЯЦЬ НАМ...

**Прайшла Радаўніца — Дзень памінання бацькоў, родных, блізкіх і сяброў, якіх ужо няма побач з намі. Няма з намі і згаданых тут літаратараў. Жыццё іхняе было няпростым, але яны любілі дасціпны жарт і добры гумар. І «ЛіМ» з дапамогай Святланы МАРЧАНКІ вырашыў гэтак своеасабліва прыгадаць іх...**



ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ
Дзецям пішуць не агулам:
Дуся елачку абула.



АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ
Экран быцця —
Экран жыцця.

КАНДРАТ КРАПІВА
За «Брамай неўміручасці»
Расце трава пякучая,
Расце трава гаючая.
Завецца — КРАПІВА.



АДАМ РУСАК
І так і сяк, і наўскасяк:
Усё — Адам, усё —
Русак.
І там, і тут, і тут, і там:
Усё — Русак Усё —
Адам.



ПЯТРУСЬ БРОЎКА
Абы ціха, абы ціха
І не будзе гора, ліха.
Як ён жыў і рабіў —
Запытайце арабін.



АНДРЭЙ МАКАЁНАК
Любы пісьменнік,
тэатрал,
Калі не ўломак.
Гатоў ісці пад
«Трыбунал»,
Бо судзіць Макаёнак.



МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ
Ён — з Пегасам і абуты.
Разумееш, каб адчуць:
Радасць ёсць і ёсць
пакуты —
«Адзін лапаць, адзін
чунь».



АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ
Пра такога Чалавека
Кажуць прама — эпік.



РЫГОР БЯРОЗКІН
Ён — дух.
Паэзіі і факту верны.
Даваў жыццё памерлым.



СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ
У дзядулі Станіслава
Вершаў шмат і многа
славы.
Клопат быў заўжды адзін:
Раніцой дзяцей будзіць.



СЦЯПАН ГАЎРУСЕЎ
Ні падвохаў, ні падманаў:
«Профіль веку» — ён
Сцяпанаў.




КАСТУСЬ КІРЭЕНКА
«Сто песень» выдаваў
неабыяка.
Чаму маўчаў маэстра
Семяняка?





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУЦАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12